***Гісторыя першая.*** ПРА ТОЕ, ЯК КАЛЯРОВУЮ ЗАТОКУ НАВЕДАЎ АПАНТАНЫ РЫБАЛОЎ

Жыў-быў Апантаны Рыбалоў. Дзе б ён ні з’явіўся, яму заўжды крычалі: “Здароў, апантаны! Зноў рыбу лавіць будзеш?” Дзіва што, яго паказвалі па тэлевізары. У Амазонцы ён лавіў піраньяў, у якіх сківіцы – што тая бензапіла, у Калумбіі – аравану, чыя луска пераліваецца вясёлкавымі фарбамі, у Афрыцы – электрычнага сама, які ў падзяку стукнуў яго токам напругаю ў 350 вольт, у Інданезіі – рыбу-пырскуна, што плюнуў яму ў нос, у Венгрыі – экзатычнага малога шчупачка з дзіўнай мянушкаю яўдошка, у Балтыйскім моры – міногаў, рыб не рыб, гэтакіх паразітаў, у Байкале – тлустага омуля, якога нідзе, апроч Байкала, не знойдзеш, у Кітаі – белага амура, на Дунаі – тайменя вагою з два пуды, а ў нашайродненькай Беларусі лавіў печкура, уюна і стронгу. Бачылі нават, як ён з ліхтарыкам і ў аквалангу апускаўся на дно акіяна і вылавіў там рыбу-сякерку і чорнага хіязмадона, страшных-страшных. Не было ў свеце калюжыны, дзе б ён каго-небудзь не злавіў. Нават у сябе дома ў ванне ён вылавіў ні то салаку, ні то русалку з рыбіным хвастом.

Зловіць рыбку, сфатаграфуецца з ёю, пацалуе ў носік і выпусціць назад у ваду. Вялікі дзівак ён быў, гэты Апантаны Рыбалоў.

Я дык мяркую, што і ад такой гуманнай рыбалкі рыбе было мала радасці. Бо каму прыемна, калі цябе цягнуць за кручок у губе. Паспрабаваў бы замяніцца з рыбай месцамі. Была б такая карцінка: здаравенны сом цягне яго з берага ў вір, а ён на лёсцы трапечацца. Тады б яму не да фотаздымкаў было б. Але не пра тое цяпер гаворка.

Аднойчы Апантаны Рыбалоў пачуў аднекуль, можа з газет або з “Інтэрнету”, што ёсць на свеце Каляровая Затока, дзе рыба зусім не ловіцца. Як бы яна і ёсць, але ніякімі прысмакамі яе не прынадзіць.

– Каляровая Затока кідае мне выклік, – абвясціў Апантаны Рыбалоў, адключыў камп’ютэр, сабраў свае вуды і пайшоў купляць білет на самалёт.

Тэхніка вялікая рэч. Раніцай Апантаны Рыбалоў ляцеў над гарамі і даламі, а ў абед кружляў над Каляровая Затокай. Зверху было бачна, як пераліваліся на яе паверхні вясёлкавыя кругі.

Праз гадзіну Апантаны Рыбалоў разглядаў Каляровую затоку зблізку. Яна змяняла колеры і не слухалася надвор’я. Неба над Затокаю блакітнае, а сонца залатое, бы антонаўскі яблык, а Каляровая Затока мае нейкі руды колер, потым чорнаю робіцца, а пасля белаю, бы малако. Здзіўлены, Апантаны Рыбалоў павесіў на вярбе сваю тэлекамеру і закінуў у Каляровую Затоку вуды.

Лавіў ён на чарвяка, на кузурку, на жука-скарабея, на пражаны гарох, на печаную бульбу, на банан, на баклажан, на батон і на французскі адэкалон ды ўсё без жаднага поспеху. Так што не было яму ў той дзень з кім сфатаграфавацца і пацалавацца.

Засмучоны, скруціў ён вуды ды пашыбаваў у бліжэйшую вёску, дзе кватараваў у адной бабулі. Ды па дарозе перастрэў яго тутэйшы жыхар Мікіта Барэйка, які цягнуў з лесу кошык з грыбамі.

– А я вас па тэлевізары бачыў, – кажа ён Апантанаму Рыбалову. – А што вы тут у нас робіце?

– А я вугроў лаўлю ў Каляровай Затоцы.

– І шмат злавілі?

– Пакуль ніводнага.

– То адкуль жа вы ведаеце, што ловіце вугроў?

Сумеўся Апантаны Рыбалоў. А Мікіта Барэйка смяецца:

– Ха-ха-ха! У Каляровай Затоцы нават жабы не крумкаюць. Усё мёртвае.

– Не можа быць! Я сам бачыў, як у вадзе нешта боўталася, бурбалкі пускала. Кругі па вадзе плавалі.

– У тым і штука, што кругі плаваюць. Слухай, дзядзька, казку. Жыў-быў у даўнія часы Апантаны Алхімік. Змайстраваў ён сабе лабараторыю і пачаў гатаваць у ёй

розную атруту, каб знішчаць сваіх ворагаў. А з лабараторыі ў рэчку трубу працягнуў. Сам сядзіць недзе далёка-далёка, нешта там хімічыць, а брыда пасля ягоных вопытаў цячэ ў Каляровую Затоку.

– Няўжо цяжка трубу разбурыць! – абураецца Апантаны Рыбалоў. – Куды глядзяць экалагічныя службы? І што гэта за асоба такая – Апантаны Алхімік? Я таксама апантаны, але ад мяне прыродзе шкоды няма.

– Лёгка табе казаць, чалавеча, – адказвае Мікіта Барэйка. – Сам паспрабуй яе разбурыць! Труба ж, няйнакш, зачараваная.

– Я б разбурыў, – разважліва гаворыць Апантаны Рыбалоў, – ды не мая гэта прафесія. Мая праца – рыбку лавіць і з ёю фатаграфавацца і цалавацца.

На тым яны і развіталіся.

Мікіта Барэйка ішоў і бурчаў сабе пад нос:

– Прафесія ў цябе… Смешная твая прафесія. Рыбу ловіць, цалуецца з ёю ды фатаграфуецца, а пасля выпускае. Вось я разумею, калі карась у смятане сквірчыць. А ад тваёй прафесіі каму наедак?

Апантаны Рыбалоў тым часам мармытаў сам сабе:

– Не веру, што Каляровая Затока мёртвая. Не паеду адсюль, пакуль не злаўлю рыбіну. Я ж цябе ажыўлю, Каляровая ты Затока.

## ***Гісторыя другая.*** ПРА ТОЕ, ЯК ВАДЗЯНЫ КЛОП ВЁЎ ФІЛАСОФСКІЯ ГУТАРКІ

Хто казаў, што Каляровая Затока мёртвая? Людзі? Мала што яны казалі. А ці так гэта? У мяне ёсць чароўны перыскоп, праз які я магу бачыць і слухаць, што ў рэчцы робіцца. Давайце разам зазірнем праз яго ў Каляровую Затоку.

Спачатку нас агаломшыць нязвыклая цішыня. У звычайных рэчках не так. Тут вечна нехта за некім ганяецца, нехта ад некага ўцякае, нехта некім снедае. Адвечнае, так бы мовіць, бурленне жыцця. А тут чуваць толькі аднастай-

нае цурчанне. Гэта з трубы ў Затоку цячэ нешта каляровае. Давайце прытоімся, як быццам бы нікога тут няма.

І вось мы чуем, як нешта зарыпела. Як бы дзверы ў дамку адчыніліся. Працягла рыпяць, як бы нязмазаныя. Ды і нашто іх тут, у вадзе, змазваць?

А гэта і напраўду дамок, ды які яшчэ дзівосны – быццам плюшка. Гаспадар вельмі асцярожны, спярша рогі ў дзверы вытыркнуў, а пасля нос паказаў. Аднак жа гэта не рогі, бо ў яго на рагах вочы. Гэта ён азіраецца, ці няма ворагаў.

Вы ўжо здагадаліся, што гэта Слімак. Цягае свой дом на плячах, а дом ягоны – ракаўка.

А вось яшчэ адна жывая істота падбіраецца да Слімака. Уга, ды гэта Вадзяны Клоп.

Адзін мой знаёмы не дае веры, што клапы жывуць пад вадою. Ён сустрэў іх толькі ў посцілцы, калі гасцяваў у дзеда Толара, і яны яго моцна пакусалі. Вось такія негасцінныя былі клапы.

Паміж тым, клапы жывуць у лясах, у траўцы-мураўцы і на вашым агародзе, і апранаюцца ў яркія, рознакаляровыя шаты. Яны, як правіла, вегетарыянцы. А вось у рэках, азёрах ды сажалках жывуць іншыя клапы – тым на вочы не трапляйся, калі ты нарадзіўся маленькай вадзяной кузуркай.

Бо яны драпежныя, гэтыя клапы. Ёсць гладыш – вочы чырвоныя, брушка цёмнае, плавае пузам дагары, і ўсіх, каго не стрэне, рачка там малога або лічынку якую, джаліць і атрутнай слінай глушыць, каб ямчэй было з’есці. Плаўт, ранатра, вадамерка – не лепшыя за іх вадзяныя драпежнікі. (Толькі чым яны дрэнныя? Робяць тое, што прырода ім загадала. Трэба ж нечым сілкавацца).

Дык на чым мы спыніліся? А на тым, што Слімачок адамкнуў дзверцы сваёй ракаўкі, і на гэты пошум заспяшаўся дзядзька Вадзяны Скарпіён, з усіх вадзяных клапоў можа самы хіжы.

Быў ён зялёны, пляскаты, бы аладка, і з доўгім хвастом, падобным да джала. Толькі насамрэч гэта не джала было, а такая доўгая трубка. Клоп праз яе дыхае.

Але кусацца ён таксама майстра, толькі робіць гэта не хвастом, а хабатком. Уга! Яму пальца ў рот не кладзі, бо як джгне, дык палец распухне бы сардэлька і доўга балець будзе. Дзіва што Клапа баіцца ўся падводная драбната. (Давайце для эканоміі часу і паперы мы яго яшчэ Вадзяным Клапом будзем называць. Клоп – гэта і ёсць ён, Вадзяны Скарпіён. Так карацей будзе).

Толькі вось Слімак ані грама не баіцца Вадзянога Клапа, бо як здабыча Слімак для яго вялікаваты. Таму Слімак ківае Клапу сваімі рожкамі і ветліва кажа:

– Дзень добры, дзядзька Вадзяны Клоп!

– Дзень добры, калі не жартуеш, – адказвае Вадзяны Клоп. Сур'ёзны ён дзядзька.

– Ёсць навіны, – шэпча Слімак і набліжае да Вадзянога Клапа свае рогі-вочы. – Там, наверсе. Дзвюхногія размаўлялі. Я ўсё чуў праз сваю ракаўку. Адзін дзвюхногі збіраецца нас на вуду лавіць, цалаваць і адпускаць. Другі казаў, што затока наша мёртвая.

Вось такі ён, Слімак. Ну, рыхтык замежны які разведчык.

– Ну і што? – яшчэ больш сур'ёзна кажа Вадзяны Клоп.

– Як што? Якія мы мёртвыя, калі мы ўсе жывыя. І што гэта за радасць, калі нас усе пачнуць лавіць і лізаць? Я пратэстую!

– Гэта дзвюхногія. Што хочуць, тое і гавораць. Што ты ім зробіш? – сурова казаў Вадзяны Клоп.

– Гэта я мёртвы? Я ім дакажу, што я жывы! Я на бераг, калі хочаце, выпаўзу, але дакажу, што я жывы!

Гарачы ён хлопец, аказваецца, гэты Слімак. Вадзяны Клоп не такі. Ён філосаф. І таму па-філасофску даводзіць Слімаку.

– Што ты ім дакажаш, Слімача? І нашто табе трэба даказваць? Усё, што трэба, ужо даказалі разумнейшыя за цябе. І куды ты папаўзеш? Ты такі спрытнюга, што год будзеш паўзці, а скутку? Табе ў ракаўцы добра і ўтульна. Сядзі сабе і не ўздымай хвалі. Гэты паганы Алхімік пусціў у трубу нейкую брыдоту і думае, што мы ўсе ўжо павыдыхалі.

У яго бізнес, а нам выжыць трэба. Мы – жывучыя. Мы – прывыклі. Каму – атрута, а нам – і пітво, і ежа, і забаўлянка. Што паробіш? Глабалізацыя! Учора з трубы нейкае нешта белае цякло, а для нас гэта – малако. Карычневае – значыць, кава. Няхай хоць бензінам, хоць саляркай, хоць ракетным палівам палівають – вытрываем. Зірні, Слімак, што там сёння з трубы цячэ?

Гэта ён пагарачыўся, паспяшаўся, што такое цяжкое заданне Слімаку даручыў. Слімак, вядома, стараўся, спяшаўся, як мог, але ўсё адно поўз да трубы дваццаць адну хвіліну і трыццаць дзевяць з паловаю секунд. Але ўсё-ткі дапоўз. Прынюхаўся, прыгледзеўся і з жахам паведаміў:

– Празрыстае! І нічым не пахне!

– Нічым? – жахнуўся Вадзяны Клоп.

– Нічым! Дык што гэта за трасца такая?

– Лепш і не пытайся, братка! – выдыхнуў Вадзяны Клоп. – Баюся, што гэта нешта такое, што горш і быць не можа. Баюся, што гэта чыстая вада!

– Бяда? Якая бяда? – пачуўся голас, і з-пад карча паказалася новае стварэнне.

Цяпер мы іх пакінем, застылых у жаху і недаўменні, і раскажам пра адну элегантную істоту, якой у гэты дзень страшэнна не пашэнціла.

## ***Гісторыя трэцяя.*** ПРА СТРАШНУЮ ПРЫГОДУ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З АДНОЙ ХАХУЛЯЙ АДНОЙЧЫ РАНІЦОЮ

У рэчцы было шмат затокаў, і не ўсе яны былі каляровыя. Была адна мясцінка, дзе вада бегла чыстая, што тая сляза. І жылі там жучкі, павучкі, чарвячкі, плавалі, поўзалі, куляліся, боўталіся, ганяліся адно за адным і часам, як ні сумна мне пра гэта паведамляць, хрупалі адзін аднаго. Тут табе і калаўроткі, і дафніі, і гідры, і лічынкі ўсялякія. Камары, мухі, стракозы, што лётаюць у паветры, дзяцінства, аказваецца, у вадзе прабавілі. А ў вадзе, як і ў джунглях, усе адзін аднаго ядуць. Што зробіш, так жыццё ўладкаванае, і не толькі падводнае.

Яшчэ жылі ў рацэ рыбкі, а над паверхняю вады віселі смарагдавыя стракозы. У дзяцінстве стракозы былі драпежнікамі, жылі пад вадой і лютыя былі, што тыя тыгры. Накідваліся на розную драбнату без аніякага шкадавання. А зараз, як абраслі крыльцамі і сталі красунямі, дык прыкінуліся, што нікога не ядуць. Пэўна, думаюць, што драпежніц ніхто замуж не возьме. Ох, манюкі! Сцеражыцеся іх, камары, мошкі ды мушкі! Вашых дзетак, лічынак, у юнацтве хрупала, а цяпер і за вас возьмецца.

Зрэшты, не пра іх гісторыя.

Чыя гэта норка хаваецца ў пяску над самай вадою? Невялікая, але ўтульная.

А вось яна, гаспадыня. Яе доўгі цікаўны носік вытыркнуўся з норкі і нешта вынюхвае. Цікаўная!

А імя гаспадыні – Хахуля.

Хахуля позна прачнулася, бо мела неспакойную ноч. Ноч самы зручны час для палявання, і Хахуля добра нацешылася, палюючы на пярловіцаў, п’явак і жучкоў. (Жорстка. Але што паробіш. Нешта ж трэба кушаць).

А цяпер яна, як прыстойная жывёлінка, вылезла з норкі і пачала каля рэчкі прыхарошвацца. Глядзіць у люстэрка вады і футрачку сваю чысціць. Ого, футрачка ў яе шыкоўная! Так срэбрам і пераліваецца. І сама Хахуля паненка зграбная. Дзіва што – створаная для таго, каб плаваць, нырца даваць і паляваць. Хвосцік, лапкі з перапонкамі – любата! Прыгажуня, элегантка адным словам.

Аднак сама Хахуля не надта сваёй знешнасцю была задаволеная. Асабліва носам.

– Ну куды ты такі вырас? – упікала яна яго. – Навошта ты такі даўжэзны ды востры?

Нос нічога не адказваў. А мог бы і адказаць. Даўгі, каб вынюхваць здабычу і ведаць усе навіны. Мала табе? Не будзь такой цікаўнай. І пакушаць любіш таксама.

Але нос маўчаў.

Затое ў зарасніку нехта замукаў. Ды так страшна, што Хахуля боўтнулася ў рэчку. І не паспела пабачыць, як над яе норкай навіс аграмадны капыт.

Калі Хахуля адплюшчыла вочы, было яшчэ страшней. Па беразе хадзілі вялізазныя рагатыя істоты на чатырох нагах, мукалі, рыкалі, хлябталі ваду. Потым пачуліся стрэлы, і з'явіўся хтось на дзвюх нагах. Ён страляў не са стрэльбы, а пугаю, якою хвастаў і па траве, і па каровах, і па паветры, і пры гэтым нешта страшна крычэў.

Хахуля зноў дала нырца пад ваду і доўга хавалася пад карчамі.

А калі яна зноў вынырнула, ад чатырохногіх і дзвюхногіх істотаў засталіся толькі сляды. А ад хахулінай норкі нічога не засталося.

Дзве хахуліны слязінкі пакаціліся ў рэчку.

Хахуля развітвалася з роднымі мясцінамі.

Будаваць новую хатку яна не захацела. Будуеш, будуеш, а пасля зноў прыйдуць гэтыя страшныя і ўсё разбураць. Яшчэ і на яе, чаго добрага, капытом наступяць.

Хахуля выпраўлялася ў вялікую дарогу – шукаць мясціну, дзе няма рагатых і страляючых. Можа, там атрымаецца новую хатку пабудаваць.

***Гісторыя чацвертая.*** ПРА ТОЕ, ЯК ВАДЗЯНЫ КЛОП РАСКАЗВАЎ СВАЕ СТРАШНЫЯ КАЗКІ, А ПАДВОДНЫЯ ЖЫХАРЫ ІХ СЛУХАЛІ

Дык дзе і калі мы пакінулі нашых падводных герояў? У Каляровай Затоцы, у той момант, калі з трубы Апантанага Алхіміка пачала цячы чыстая вада, што вельмі напалохала ўсіх.

– Баюся, што гэта чыстая вада, – жахаўся Вадзяны Клоп.

– Бяда? Якая бяда? – пачуўся голас з-пад карчоў.

Голас належаў Шчупачысе. Гэта значыць Шчупаку жаночага роду. Было ёй, можа, гадоў дзвесце. Нічога, шчупакі і болей жывуць. Яна паказала сваю зяпу, аброслую водарасцямі, і стала гэтай зяпай шамкаць, пытанні задаваць.

Пытанне першае:

– Бяда? Якая бяда?

(Недачула. Шчупачыха ад старасці была глухаватая).

Пытанне другое і трэцяе:

– Вячэраць будзем? А што там у трубе смачненькага?

На гэтыя пытанні Вадзяны Клоп адказваў зусім няветліва:

– Зусім аглухла, старая калода. Ніякай вячэры не будзе, таму што з трубы цячэ чыстая вада. Вада, разумееш? Вось гэта дык бяда. Не проста бяда, а капут. Гамон. Кадук. Зразумела?

– Авой, авой! – нема загаласіла Шчупачыха. – Што тут будзе цяпер?!

(Нема – гэта таму што гучна яна не магла галасіць. Як-ніяк, а яна была падводная жыхарка).

– Што тут будзе цяпер? Нічога не будзе, – мудра адказваў Вадзяны Клоп. – Будзе тое, што здарылася з маёй прыяцелькай Жабай. Яна жыла-была ў адным царстве-гаспадарстве, блізу аднае фермы, у калюжыне, поўнай аміяку. Назва калюжыны была Смярдзюшка. Калі Жабе пісалі лісты, дык адрас так і пазначалі: у Смярдзюшку, да аднае Жабы. Аднойчы Жаба пачала носам круціць. Чым ёй было кепска, дурнічцы? Пахла ёй, бач, нясмачна. Маладая была, пераборлівая. Мухі былі ў яе носе, бо аднымі мухамі жывілася. Лепш бы яна жывілася камарамі. Уцякла яна з калюжыны і пераскочыла ў сажалку. А ў сажалцы, як на тую бяду, была чыстая вада. Дык яна, бедная, ад непрывычкі тут жа і спруцянела. Такая вось гісторыя.

– Авой, авой, – з ціхім стогнам азвалася Шчупачыха. – Напраўду, чыстая вада – гэта чыстая бяда. Будзе нам гора, як той Жабе. Слухай, Клопе, а хто такія Жабы? Нешта не прыгадаю.

– Гэта халодныя, слізкія такія, – важна патлумачыў Клоп.

– Ага, ага, – заківала сваёй мызай Шчупачыха, – халодныя, слізкія і з калючкамі. Памятаю, ела такіх.

– Не, старая, – аўтарытэтна запярэчыў Клоп. – Халодныя, слізкія і з калючкамі – гэта яршы. Яны ў нашай Каляровай Затоцы ўжо гадоў сто трыццаць як павыдыхалі.

– Авой, авой! – ізноў загаласіла Шчыпачыха. – Яршы ўжо павыдыхалі? А што з намі будзе?

Яна хоць і нема галасіла, але пад вадой было добра чуваць. І на гэты яе лямант прыплыў новы герой – маленькі Шчупачок. Зялёненькі, што агурочак, зубасценькі, лабасценькі, жвавы ды цікаўны.

– Бабуля, чаго ты галосіш? – гукнуў да старой Шчупачок.

Шчупачыха кінула галасіць і пачала бурчэць сабе пад нос:

– Табе дзела? Хачу – і галашу. А ты чаго тут скачаш?

– А я таму скачу, што есці хачу, – патлумачыў Шчупачок.

Рамзову жорстка перапыніў Клоп:

– Вячэра адмяняецца. Не будзе табе, малы, ні малака, ні чаю з какавай, таму што з трубы вада пацякла. Сталоўка зачынілася і невядома калі адчыніцца.

Тут Шчупачок пачаў румзаць і капрызіць, як гэта любяць рабіць нявыхаваныя дзеткі:

– Есці хачу! Есці хачу!! Есці хачу!!!

Вадзяны Клоп быў ва ўсім дасведчаны. Проста не Клоп, а падводная энцыклапедыя. Ён да ўсяго быў яшчэ і педагог. Таму ён па-педагагічнаму вызверыўся на беднага маленькага Шчупачка:

– Цыц! Маўчаць! Слухаць маю вечаровую казку! Яна табе вячэру заменіць.

– Не хачу казку, – усё яшчэ румзаў Шчупачок. – Яны ўсе ў цябе страшныя.

– Гэтая будзе вясёлая і смешная, – супакоіў яго Клоп. – Таму што яна пра Клапа. Слухай. У адной рэчцы жыў-быў Клоп. Вадзяны. І ўсялякая іншая драбяза там боўталася. Рыбы там розныя, ракі, бабры… А на беразе жылі людзі. Яны зайздросцілі клапу, што ён у рэчцы жыве, што яму добра там, мокра. І тут з’явіўся дрэнны чалавек, Алхімік. Ён ненавідзеў клапоў. Вось ён кажа: “Чаго яны там сядзяць? Добра ім там, разумееш, мокра. А я не пацярплю, каб каму-небудзь было добра, пакуль я золата не навучыўся з камення здабываць. Вось калі навучуся, дык няхай мокнуць”. І ён ад сваёй лабараторыі працягнуў да рэчкі трубу…

Тут ужо Шчупачок не вытрымаў:

– Дзядзечка Клоп, хіба гэта казка? Гэта ж існая праўда, усё пра нас!

– Не спяшайся, малое, слухай далей, – казаў разважлівы Клоп. – Наша жыццё – ці не тая ж казка? Дык вось, па трубе пацякло ў рэчку ўсялякае такое, што золатам не назавеш. Ляшчы, плоткі, верхаводкі, галаўні, ментузы – усе паплылі дагары пузам ад такое радасці. А вось Клоп застаўся жыць. Бо ён быў самы разумны. Ён першы зразумеў, што і з трубой жыць можна, што з ёю можна жыць-пажываць і дабра нажываць. Што труба – гэта цывілізацыя!

Шчупачыха, хаця і была глухаватая, лавіла сваёй зяпаю кожнае слова, праказанае Клапом. І самае апошняе слова яе дужа зацікавіла.

– Як, як ты сказаў? – перапытала яна. – Цы-цы... Што?

Клоп не паспеў паўтарыць слова “цывілізацыя”, таму што ў Каляровую Затоку нешта боўтнулася, і пачалася, уласна кажучы...

## ***Гісторыя пятая.*** ПРА ТОЕ, ЯК У КАЛЯРОВАЙ ЗАТОЦЫ З’ЯВІЎСЯ ЭЛЕГАНТНЫ І ЗАГАДКАВЫ НЕЗНАЁМЕЦ

Калі ў ваду нехта боўтаецца, дык бывае, натуральна, гучнае “боўць”. І гэтае “боўць”, натуральна, усіх палохае. Усе, натуральна, даюць лататы і хаваюцца дзе хто можа. Каляровая Затока не была тут выключэннем. Усе кінуліся ратавацца. Шчупачок і ягоная бабуля схаваліся ў карчах, накрыліся зверху ўсялякім ламаччам. Клоп схаваўся пад апалым лістом. Слімак схаваў у ракаўцы сваю рагатую галаву і зачыніў дзверы на ўсе засаўкі, замкі і клямкі.

А ці варта было палохацца? Усяго толькі прывадніўся ў Затоцы адзін элегантны Незнаёмец. Ён важна сядзеў на кручку, бы пан які ў фатэлі, а кручок трымаўся на лёсцы аквамарынага колеру.

– Прывітанне, шаноўнае спадарства, – сказаў Незнаёмец.

Ён быў ветлівы і выхаваны. Але на яго прывітанне ніхто не адгукнуўся.

– Чаго вы так напалохаліся? – распачаў сваю прамову Незнаёмец. – Мяне не трэба палохацца. Я прадстаўнік зямное цывілізацыі, дык чаго вы паўцякалі, дзікія істоты? Я не збіраюся вас есці. Наадварот, я вас саміх на банкет запрашаю з нагоды майго прыбыцця. Пахаваліся. Ну й дзікія ж гэныя падводныя абарыгены. Ну й смурод жа ў іх тут – ф-фу… Лепш бы я ў сваёй кучы гною сядзеў і нікуды не ездзіў бы. Ды куды вы падзеліся, шаноўныя? Сустракайце інтурыста.

Госць паазіраўся, заўважыў слімаковы дамок і пачаў энергічна стукацца ў дзверы сваім хвастом.

– Імем закона, адчыняй! – грозна казаў Незнаёмец. – Адчыняй свой гатэль, хто тут ёсць.

– Нашыя ўсе дома… – адказваў перапалоханы Слімак.

– А я хіба не наш? – пакрыўдзіўся Незнаёмец.

– Прадстаўляцца трэба, – шапацеў з-за зачыненых дзвярэй Слімаковы голас.

– Я – Чарвяк, – ганарова абвясціў госць. – Візітную картку, перапрашаю, забыў у роднай кучы гною.

– А я – Слімак, – прадставіўся асмялелы гаспадар. – Прашу больш не стукацца да мяне хвастом. І ўвогуле прашу пакінуць вадаём. Ніхто вас сюды не запрашаў.

Чарвяк аж закруціўся ад злосці на сваім кручку.

– Хіба мы не цывілізаваныя істоты? – сычэў ён. – Якія такія запрашэнні, пашпарты, візы, межы? Я, можа быць, грамадзянін планеты, гэта значыць, касмапаліт, і таму клічу ўсіх на банкет! Гэй, рыбы, малюскі, жамяра! Плывіце, паўзіце, скачыце сюды! Доўга я яшчэ буду тут на кручку круціцца?!

Прызнацца, раней я меркаваў, што чарвякі – ціхманыя істоты. Але гэты, патрапіўшы з кучы гною на волю, так раскрычаўся, што Вадзяны Клоп, Шчупачыха і яе прапраўнук імгненна павылазілі са сваіх схованак на ягоны лямант.

– Чаго ты крычыш, – строга заўважыў Клоп. – У нас не паложана.

– Га? Што? Чаго? А гэты вяртлявы чаго тут робіць? – пыталася Шчупачыха.

А Шчупачок нічога не казаў, а толькі прыглядаўся.

Тут Чарвяк пачаў самому сабе рабіць рэкламу. Бо што казаць – як сам сябе не пахваліш, дык ніхто і не пахваліць.

– Я, разумееце, прыйшоў да вас з адкрытым сэрцам і шчырай душою, – разліваўся ён салаўём. – Мне тут вельмі падабаецца. Мая куча мне ўжо даўно абрыдла. Смярдзіць ад яе моцна. А ў вас тут цішыня, спакой, ветру няма. Толькі птушачкі спяваюць. А можа, гэта і не птушачкі спяваюць, а жабачкі квакаюць. Таксама прыгожа.

– “Жабкі квакаюць…”, – бурчэў сабе пад нос стары скептык Клоп. Ён не любіў сантыментаў. – Хутка і ў цябе ў вушах заквакае, калі павісіш на сваім кручку каля трубы.

– А што труба? – працягваў сваю салаўіную песню Чарвяк. – Мне вашая труба таксама падабаецца. Мне ўсё тут падабаецца. І вы ўсе падабаецеся. Вунь рыбка якая мілая. Зусім маладзенькая рыбанька, толькі-толькі з ікрынкі вылузалася. Скушай мяне, рыбанька! Мне толькі прыемна ад гэтага будзе.

Гэта ён так ветліва да Шчупачыхі звяртаўся.

– Хіба што і праўда з’есці? – прашамацела Шчупачыха. Ёй Незнаёмец страшэнна спадабаўся. Такі элегант! – А можа, пакруціўся б яшчэ троху? Такі ты прыгожы, гнуткі, элегантны!

– Куды мне ўжо круціцца… – уздыхнуў Чарвяк. – Доля мая такая – каб рыбкі мяне кушалі.

– А ты ў жываце казытацца не будзеш, элегантны такі? – усё яшчэ сумнявалася Шчупачыха.

– Не бойцеся, – супакойваў яе Чарвяк. – Я няшкодны і нават карысны. Мяне ў цяпліцы спецыяльна для вас гадавалі. Я без нітратаў і нуклідаў, свежанькі, як гурочак. Смачна з’есці!

– Ну, калі ўжо так просіш… – сказала Шчупачыха і разявіла пашчу.

Напэўна, гэта была б апошняя вячэра старой Шчупачыхі, калі б не Шчупачок. Ён выскачыў наперад і ў роспачы замахаў плаўнікамі.

– Бабуля, з кім ты звязалася? – лемантаваў Шчупачок. – Паглядзі, каму ты даверылася! Ён жа на кручку сядзіць! А кручок востры-востры!

– І праўда – кручок… – разгледзела Шчупачыха. – Эх ты, элегант! І не сорамна жанчын падманваць?

Чарвяк на тое і Чарвяк, каб выкручвацца, і заўсёды сабе апраўданне знаходзіць. Ён і тут не разгубіўся.

– А я вас і не думаў падманваць, – адказаў ён Шчупачысе. – Вы мне надта спадабаліся. Такая юная! Сапраўдны малёк. Мне захацелася разам з вамі на кручку пасядзець. Што, гэта хіба злачынства? Я свабодны, між іншым, Чарвяк.

– Калі свабодны, дык злазь з кручка, – уедліва прамовіў Клоп. – Злазь і заставайся ў нас жыць.

– Не магу, – сумна сказаў Чарвяк. – Сядзець на кручку – гэта мая служба. А кінуць яе не магу.

– Кепская служба! – выгукнуў Шчупачок.

“Службу не выбіраюць”, – хацеў быў запярэчыць Чарвяк, але не змог, бо раптоўна самлеў і павіс на кручку.

Усе замітусіліся вакол яго, замахалі лапкамі і плаўнікамі. І высветлілася прычына: толькі-толькі з трубы паплыло нешта зялёнае. Можа, сінільная кіслата. І Чарвяк з непрывычкі самлеў.

Ніхто не ведаў, што рабіць. А тут яшчэ за рачным парогам нешта зашлэпала і заплюхала. Усе стаіліся. Можа, гэта па Чарвяка прыйшлі яго гаспадары?

Што ж гэта там такое шлэпала і плюхала? Вы, пэўна, здагадаліся ўжо. А калі не здагадаліся, дык чытайце наступную гісторыю, якая называецца…

***Гісторыя шостая.*** ПРА ТОЕ, ЯК У КАЛЯРОВАЙ ЗАТОЦЫ З’ЯВІЛАСЯ ЭЛЕГАНТНАЯ І ЗАГАДКАВАЯ НЕЗНАЁМКА. А ВАДЗЯНЫ КЛОП З ГЭТАЙ НАГОДЫ РАСПАВЁЎ НЕ КАЗКУ, А САПРАЎДНУЮ БЫЛЬ

Чытачы, якія ўважліва сочаць за ходою нашага апавядання, адразу заспрачаюцца: “Ну, якая яна Незнаёмка? А мы ведаем, пра каго ідзе гаворка. Няма чаго нам галаву дурыць!”

А я і не збіраюся нікому галаву дурыць. Я і не хаваю, што гэта была Хахуля.

Выглядала яна эфектна. Нос даўгі, хвост таксама даўгі, вочы спалоханыя і даверлівыя, а апранутая была ў шыкоўнае серабрыстае футра. Натуральнае, між іншым.

Прышлэпала і прыплюхала і сказала – і Чарвяку, і Слімаку, І Клапу, і Шчупачысе – усім адразу:

– Дзень добры!

А яны ўсе ў яе ўтаропіліся і нічога ў адказ не гаварылі.

– Чаго гэта вы на мяне так дзіўна гледзіцё? – спыталася Хахуля. – Не бойцеся. Я ж у вас у гасцях. А я ў гасцях нікога не ем. Мне б толькі адпачыць у вас крыху. Здалёк іду. Стамілася.

Тут Вадзяны Клоп узяў справу ў свае лапкі.

– Здалё-ок? – вымавіў ён. – Адкуль гэта здалёк? Давай пра ўсё па парадку. Хто ты, адкуль і чаму тут з’явілася? Хто твае гаспадары? Можа, цябе таксама падкінулі, як вось гэтага элеганта?

Гэта ён на Чарвяка намякаў. А той гушкаўся сабе на кручку і песеньку нейкую сабе пад нос муркатаў, як быццам бы і не пра яго гаворка ішла.

– Я здалёк, – адказала Хахуля. – Ніякіх гаспадароў нада мною няма. У маёй краіне ўвогуле няма гаспадароў. Усе жывуць самі па сабе—жучкі, чарвячкі, павучкі, рыбкі, стракозы…

– … і ўсе адзін аднаго ядуць, – з’едліва падказаў ёй Клоп.

– А што ж? Кожнаму кушаць што-небудзь трэба, – наіўна адказвала Хахуля. – Затое ў нас неба блакітнае, сонца жоўтае, вада празрыстая. А ў вас? Сонца сіняе, неба жоўтае, вада зялёная. Усё размаляванае невядома кім і для чаго. У нас усе жывыя, нехта за некім ганяецца, нехта ўцякае, нехта гуляецца. Вадамеркі фігурнае катанне

паказваюць. Павучок срэбны нерат пляце. Рак нару рые. А ў вас? Ніякага руху. А па дарозе мне ўсё мёртвыя рыбкі трапляліся. І чым бліжэй да вас, тым больш. Жыватамі дагары плаваюць. Іх нават кушаць няможна, бо пахне ад іх нясмачна. Гэта ж што такое атрымліваецца?

– Ты нас не крытыкуй. Ты па парадку раскажы, што рабіла, як жыла, як трапіла сюды і што рабіць збіраешся, – спыніў Хахулю падазроны Клоп.

І Хахуля ўсё праўдзіва расказала. Усё чысценька. І пра сваю ўтульную норку, і пра рагатых, і пра хвастатых, і пра дзвюхногага, які пугай страляў. І пра тое, якіх страхаў яна нацярпелася, пакуль прышлэпала ў Каляровую Затоку.

Разважлівы і дасведчаны Клоп адразу разабраўся, што да чаго.

– Тыя, што мукалі, – гэта каровы, – сказаў ён. – Гэта яны тваю норку разбурылі. І яшчэ разбураць, не сумнявайся. Той, што пугай страляў, – гэта пастух. Ён не на цябе крычаў. Ён на кароў крычаў. Дысцыпліну наводзіў, разумееш? І гэта правільна. Цяпер застаецца апошняе высветліць. Хто ты сама такая?

– Я – Хахуля, – прызналася Хахуля.

Яна заўжды праўду казала.

А ў Каляровай Затоцы запанаваоа мёртвая цішыня.

Толькі Шчупачыха марна шамкала сваёй пашчай. Яна недачувала. І таму пыталася?

– Хто? Што? Адкуля?

– Не адкуля, а Хахуля, – стаяла на сваім Хахуля.

Ізноў павісла мёртвая цішыня, якую парушыў мудры Клоп.

– Хахуля? – аўтарытэтна запытаўся ён. – Быць не можа! Хахуляў не бывае.

– Як жа не бывае, калі я ёсць? – наіўна спыталася Хахуля.

І тут Клоп скроіў важную міну, надзьмуўся і загаварыў…

(Прабачце, ён даволі доўга гаварыў, але мусім прывесці яго прамову цалкам).

Значыцца, ён надзьмуўся і загаварыў:

– Вядома, ты ёсць. І Русалка, і Вадзянік, і Балотнік, і Багнік, і Балацянік – усе яны кажуць, што яны ёсць. А хто іх з навукоўцаў бачыў? Хто іх у сур’ёзных кніжках апісаў? Ты са мной не спрачайся, Хахуля. Я мажа не ўсе сур’ёзныя кніжкі прачытаў, але мой сваяк, шашаль кніжны, дык усё іх прайшоў чыста. Ён, ведаеш, у бібліятэцы працуе. А ягоная прафесія – кніжкі грызці. Дык ён іх усе прагрыз, ад коркі і да коркі. Грыз таксама адну кнігу чырвонага колеру. Яна так і называецца – “Чырвоная кніга”. У той кнізе, Хахуля, пералічваюцца ўсе жывёлы і жывёлінкі, якія вымерлі, і ў прыродзе іх быць не можа. Дык вось, гэтую кнігу мы са сваяком, кніжным шашалем, разам грызлі. Вячэра ў нас была сваяцкая, разумееш? І вячэралі мы Чырвонай кнігай. І пасля той вячэры да мяне дайшло. Маманта няма. Тура няма. Тасманійскага ваўка сумчатга няма. Нашто ён толькі тыя сумкі цягаў? Цябе, Хахуля, таксама няма. Ты вымерла. Так у “Чырвонай кнізе” прапісана. Вось табе не казка, а сапраўдная быль.

– Я не чытала “Чырвонай кнігі”, – са скрухай адказвала Хахуля. – Але я ведаю, што я ёсць. Я ведаю, што была ў мяне сапраўдная рэчка, з празрыстай вадой, а ў ёй круціліся розныя жучкі, п’яўкі, кузуркі. А пасля з’явіліся нейкія рагатыя і з пугаю, і ўсё знікла. Не ведаю, што там пра мяне напісана, у той кнізе, але ж я выміраць не збіраюся, разумееце, дзядзечка? Пагартайце вы з шашалем тую кнігу. Можа, вычытаеце там пра якую-небудзь мясцінку для хахуляў, дзе б вада была чыстая, бераг высокі, пясок жоўты, і каб можна было б новую норку выкапаць…

– Глядзі ты на яе, як губу раскатала! – абурыўся Клоп. – Пясочак ёй жоўты патрэбен і вада празрыстая! Глядзі ты! Ты хочаш добра жыць, а хто табе дазволіць? Знойдзецца які-небудзь Алхімік, правядзе трубу – і пясочак твой пасінее, а вада пазелянее. З якой такой нары ты выпаўзла, хвастатая і насатая паненка? Ты ж зусім жыцця не ведаеш!

– Жыццё? – перапытала хвастатая і насатая паненка. – А што такое жыццё?

Наіўная! Яна напраўду не ведала, што такое жыццё. Не ведала і таго, што паўтарыла пытанне, якое задавалі

самі сабе ды іншым усе лысыя, сівыя, насатыя, паласатыя, валасатыя і голеныя філосафы свету ва ўсе часы. Дык што ж такое жыццё?

Але Клоп – на тое ён і быў мудры – хуценька развязаў гэтае філасофскае пытанне.

– Жыццё – гэта труба, якая ў нашу Затоку пракладзена. З ёю мы жывем ды іншага жыцця і не хочам. Труба нас і корміць, і поіць, і спаць кладзе, і “Калыханку “ на ноч паказвае. Хочаш калыханку на ноч? Паплавай вакол трубы, пакруці сваім даўгенькім носікам – адразу ў цябе мульцікі ўваччу замільгаюць. Вось што такое жыццё, галубка.

Уся кампанія слухала Клапа, разявіўшы рот. “Вось гэта дык галава! – думаў кожны. – Усе кнігі на свеце прачытаў, нават да “Чырвонай” дабраўся. Не Клоп, а праўдзівы акадэмік”. Слімак таксама заслухаўся і зусім страціў сваю пільнасць. Ён вытыркнуў рагатую галаву з дамка і пацвердзіў:

– Так-так. Так-так.

– А ты чаго тактакаеш? – ускінуўся Клоп. – Табе ніхто слова не даваў!

– От заўсёды так! – пакрыўдзіўся Слімак, схаваўся ў дамку і зачыніў дзверы на ўсе засаўкі. У свеце няма больш пужлівай, сарамлівай і крыўдлівай істоты, чым Слімак.

– Навошта вы яго крыўдзіце? – заступілася за Слімака Хахуля. – Ён, можа, таксама пагаварыць хацеў. Мае ён права выказаць сваю думку ці не мае?

– Ды не перажывай ты з-за яго, Хахуля! – падаў голас Шчупачок.

Хахуля яму падабалася, і ён хацеў ёй спадабацца. Яму карцела ёй прыемнае штосьці зрабіць. Таму ён сказаў:

– Ён баязлівец, наш Слімак. Але я ведаю, як яго з ракаўкі выцягнуць. Хочаш, пакажу?

І Шчупачок заспяваў:

– Слімак, Слімак, высунь рожкі,
Дам табе я тры гарошкі…

Слімак імгненна паказаў сваю рагатую галаву. Рагатая галава запыталася:

– Хачу тры гарошкі! Дзе яны? Давай!

Усе зарагаталі. Нават Хахуля ўсміхнулася. А Слімак заканькаў:

– Здзекуецеся, ага? Падманваеце, ага?

Шчупачок, гэтакі смелы, як піянер, пачаў яго сароміць:

– А чаго ты такі баязлівец? Сорамна баяцца! Сорамна ад кожнага шолаху ў ракаўку хавацца!

– Свет такі страшны, – апраўдваўся Слімак. – Усюды – зубы, клюшні, пасткі, сеткі, кручкі, паплаўкі, мармышкі…

– Сорамана баяцца! – казаў Шчупачок. – Ты ўжо вялікі.

– А я і не баюся! – храбрыўся Слімак. Вось захачу – і выпаўзу з ракаўкі. Мне варта адно захацець.

– Ніколі не выпаўзеш, – запярэчыў яму Клоп. – Так і праседзіш усё жыццё за зачыненымі дзвярыма.

Сердабольная Хахуля заступілася за Слімака.

– А я Слімачку веру, – сказала яна. – Ніякі ён не баязлівец. Проста ён асцярожны.

Слімак узрадаваўся і ўрачыста паабяцаў:

– Вось дык дзякуй на добрым слове, Хахуля! Цяпер я твой верны сябра на ўсё жыццё. Я табе заўжды стануся ў вялікай прыгодзе. Толькі гукні – і я адразу прыбягу.

Гэта ён добра сказаў. Бы сапраўдны рыцар. Толькі вось пытанне: ці ўмеюць слімакі бегаць?

Пачуўшы такое, Шчупачок таксама паабяцаў:

– А я таксама Хахулі буду дапамагаць! Што, хіба я горшы за Слімака? Я, можа, яшчэ хутчэй за яго на дапамогу прыбягу.

Вось дык пашанцавала нашай Хахулі! Адразу столькі сяброў. Нават Чарвяк ёй пазайздросціў. Ён быў задрамаў на сваім кручку, але як пачуў, што падводныя істоты мілуюцца і прысягаюць на вечнае сяброўства, дык адразу заварушыўся і салодкім голасам праспяваў:

– А я што, лысы? І я хачу з яснымі паненкамі сябраваць. Што я, вінаваты, што родам з кучы гною?

Думаеце, проста мне жывецца? Праз пот, кроў і слёзы здабываю хлеб свой надзённы. Паспрабавалі б столькі пракачацца на кручку, як я качаюся. А вы кажаце: чарвяк, чарвяк… Будзьце ласкавыя, здыміце мяне з кручка. Я разам з вамі радавацца буду і на вечную дружбу прысягну.

– Бедненькі! – кінулася да яго Хахуля.

– Пачакай! Гэта правакатар! – закрычаў Шчупачок.

Але Чарвяк енчыў гучней за яго:

– Вой! Вой-вой!! Вой-вой-вой!!! Галоўка мая баліць, хвосцік мой адрываецца! Не магу болей на кручку сядзець! Ратуйце, хто можа!

Жаласлівая Хахуля ўжо нікога не слухала, кінулася да Чарвяка і паспрабавала зняць яго з кручка. У тое ж самае імгненне Чарвяк загалёкаў, павярнуўшы галаву ўверх. Пэўна, да свайго гаспадара звяртаўся.

– Гэй, там, наверсе! Цягні!

І ўмомант ён знік разам з Хахуляю.

А падводная кампанія адно варушыла плаўнікамі, вусамі, жабрамі. Шчупачок – такі жвавы! – паспрабаваў быў кінуцца наверх ратаваць Хахулю. Ды як ёй дасі рады? І хоць ён упіраўся, і енчыў, і княваў, ды ўзялі яго Шчупачыха з Вадзяным Клапом пад жабры ды пацягнулі ў люлю.

– Гэта табе прыснілася, – супакойвалі яны яго. – Гэта страшная казка была. Па тэлевізары паказвалі. Па трубе. Хахуляў не бывае. Добрай ночы, малеча.

Ледзьве ўгаманілі. Шчупачок усхліпваў і ўсё не хацеў засынаць.

Калі ў Каляровай Затоцы запанавала нарэшце цішыня, з ракаўкі вытыркнуў свае рогі Слімак.

– Эх, Хахуля, Хахуля, – казаў ён, – з кім ты звязалася? З Чарвяком… Я ж цябе папярэджваў, што ён падасланы… З ракаўкі крычаў… Што ж ты мяне не слухала? Прыклала б да ракавіны вуха – і пачула б. А цяпер што? Але я клятвы не парушу. Я дапамагу табе, Хахуля. Вось толькі дай мне гадзіну-другую, або дзень-два на зборы. Я я-ак збяруся! Я-ак папаўзу! І выратую цябе, Хахуля.

І Слімак пачаў збірацца. Няхуткая гэта справа. Таму, пакуль ён збіраецца, мы паслухаем…

***Гісторыю сёмую.*** ПРА ТОЕ, ЯК ХАХУЛЯ ПАМЯНЯЛА ВАДУ НА ПАВЕТРА, А ПАВЕТРА НА ЗЯМЛЮ, І ЯК НЯГЖЭЧНА АБЫШОЎСЯ З ЁЮ ЯШЧЭ АДЗІН НЕЗНАЁМЕЦ, І ЯК ЯНА АБЫШЛАСЯ З НЯГЖЭЧНЫМ НЕЗНАЁМЦАМ

Вось так атрымалася, што Хахуля з вады апынулася ў паветры, а з паветра апусцілася на зямлю. Так бы мовіць, прызямлілася. Віншуем са шчаслівым прызямленнем, Хахуля!

Толькі сама Хахуля гэтаму прызямленню чамусьці не ўзрадавалася. Яе можна зразумець. Чарвяк – той адразу зваліўся з кручка, атрымаў поўную свабоду і папоўз, шчаслівы і свабодны, з пачуццём выкананага абавязку, у сваю цёплую кучу гною.

Праз гадзіну ён ужо даваў інтэрв’ю пра свае падводныя прыгоды сур’ёзнаму карэспандэнту “Падземнай газеты”, якога звалі Мядзведка. (Быў той Мядзведка падобны адначасна да цвыркуна, коніка і крата, гэта значыць, выгляд меў страхотны, але гэта яму не перашкаджала працаваць карэспандэнтам “Падземнае газеты”; вось такія пад зямлёй існавалі дэмакратычныя норавы).

А Хахулю падхапілі нечыя дужыя рукі.

– Ого, якая прыгажуня! – пачуўся прыемны мужчынскі барытон. – Ды гэта ж Хахуля! Пра яе пусцілі пагалоску, што яна вымерла, а яна, бач, жыве! Толькі вось колер свой натуральны страціла. Гэта хто ж размаляваў цябе так страшна, паненка мая шэра-бура-казюлькавая? Куды ж цябе памясціць? Садок для цябе не падыходзіць, вядро таксама. Хіба што вунь у той мяшок? Ды не вырывайся ты, дурненькая! Я табе кепскага нічога не зраблю!

І пры гэтых словах незнаёмец, які гаварыў прыемным мужчынскім барытонам, неасцярожна ўхапіў Хахулю за хвост, каб затрымаць. Надта ж энергічна яна з ягоных рук вылузвалася.

Хахуля не прывыкла, каб яе так груба хапалі. І каб у мех піхалі. І яшчэ ёй не спадабалася, што яе абазвалі шэрабура-казюлькавай. Яшчэ і дурненькай. Яна дык лічыла сябе разумненькай. Яшчэ і за хвост схапілі… Хто ж гэта бачыў, каб з паненкамі так груба абыходзіцца? Што ёй было рабіць? Яна зрабіла тое, што зрабіла б кожная хвастатая і зубастая паненка на ейным месцы. Яна ўзяла ды цяпнула сваімі вострымі белымі зубкамі нягжэчнага незнаёмца за палец.

Незнаёмец сказаў:

– Вой!

І адразу выпусціў з рук Хахулю.

Яна-такі добра яго цапнула, бо мела зубкі ядраныя, беленькія, бы часначок, і востранькія. Дзіва што – не злоўжывала ні цукеркамі, ні халвою, ні іншай якой слодыччу.

Хахуля была не толькі сімпатычная, але спрытная і кемлівая. Яна скарыстала момант і адразу шуснула ў ваду.

Незнаёмец засунуў палец, з якога юшыла кроў, у рот, а пасля адчыніў сваю паходную аптэчку. Спрытна апрацаваў ранку ёдам ды рознымі лекамі, перавязаў бінтам, паківаў галавою і вымавіў:

– Хто толькі на гэтай планеце з мяне кроў ды не пускаў! Рыбы кусалі, васьміногі смакталі, чайкі дзяўблі, мядузы джыгалі… А цяпер яшчэ гэтая Хахуля цяпнула. Скуль яна толькі ўзялася ў гэнай смярдзючай затоцы? Гэта ж феномен! Не, з гэтым трэба нешта рабіць. З трубою трэба разабрацца. І хто яе толькі сюды працягнуў?

Вядома ж, гэта быў ён, Апантаны Рыбалоў. Каму яшчэ так баліць за ўсё жывое?

Здаецца, ён мае цвёрдыя намеры даследаваць трубу і таго, хто па ёй розную брыду пускае. А пакуль ён збіраецца нешта рабіць, давайце следам за Хахуляй нырнем у Каляровую Затоку.

***Гісторыя восьмая.*** ПРА ТОЕ, ЯК ВАДЗЯНЫ КЛОП ІЗНОЎ ВЯРНУЎСЯ ДА СВАЙГО ЎЛЮБЁНАГА ЗАНЯТКУ – ПАЧАЎ СТРАШНЫЯ ГІСТОРЫІ РАСКАЗВАЦЬ

А ў Каляровай Затоцы як бы нічога і не памянялася. Цурчэла, сплываючы ў рэчку, вясёлкавая вадкасць. Падводныя жыхары сабраліся вакол трубы, як людзі збіраюцца ўсёй сям'ёй вакол абедзеннага стала.

Толькі вось у Шчупачка горла чамусьці было перавязана шматком нейкай цыраты. Захварэў, небарака. Рыбы і так размаўляюць – ледзьве шалпочуць, а Шчупачковы голас стаўся зусім хрыпаты.

– Не кашляй, рыбянятка, – ушчувала прапраўнука Шчупачыха. – Хто ж цябе прасіў учора крычаць, Хахулю ратуючы? А можа, ты халоднага чаго ўчора каўтануў, га? Слімак, ты не бачыў, што ўчора рабіў гэны падшыванец?

Але Слімак не чуў, бо ён быў у дарозе. На цэлыя паўметры адпоўз, адданы рыцар ордэна Хахулі. Што ні кажы, а для марудлівага Слімака, які толькі на брусе поўзаць умее, гэта подзвіг.

– Не журыся, рыбянятка, – цягнула старая Шчупачыха. – Вось табе зараз дзядзька Вадзяны Клоп нанач казачку раскажа.

– Толькі вясёлую, – прахрыпеў Шчупачок. – Бо ў дзядзькі Вадзянога Клапа ўсе казкі страшныя.

– Вясёлую, самую вясёлую, – паабяцаў Вадзяны Клоп. – І не казка гэта будзе, а быль, падобная да казкі. Або казка, падобная на быль.

І пачаў ён расказваць сваю “вясёлую” быль.

– Значыцца так. Жылі-былі дзвюхногія. Гэта, значыцца, людзі. Жылося ім не дужа каб добра. Плаўнікоў у іх няма, лускі няма, жабраў няма, паветранага пухіра няма. А неба над імі было блакітнае, калі не зацягвалася хмарамі, а сонца жоўтае, а дрэвы і трава зялёныя. Што гэта за жыццё, калі штодня адное і тое ж? Надакучыла гэта ўсё людзям, і захацелася ім чаго-небудзь новенькага. Панавыдумлялі яны аўтамабіляў, заводаў, лабараторыяў, падводных лодак і ўсялякага іншага. З комінаў паваліў дым і ахутаў чалавечыя гарады. Неўзабаве неба над імі зрабілася шэрае ад дыму, дрэвы пажаўцелі, як увосень. Ужо ім весялей, там, на сушы. А каб і пад вадой не сумавалі, людзі

нарабілі розных труб, паўстаўлялі іх у ваду і пусцілі па трубах розную брыду. І вада, раней празрыстая, заззяла, бы вясёлка.

– Ты пра гэта ўжо расказваў, – прашамацеў Шчупачок. – Пра тое, што ўсе павыдыхалі, а Вадзяны Клоп застаўся…

– Праўда, праўда, і такое было, – пацвердзіў Клоп. – Але на гэтым мая быль не скончылася. Нядоўга павесяліліся людзі. Бо атрута плыла ў рэкі і рэчкі, а па іх апускалася ў мора, а з мора – у акіян. Акіян цярпеў-цярпеў, глытаў-глытаў усю гэтую бурду і ўрэшце не вытрымаў, захлынуўся. І стаў з яго не акіян, а густы каляровы кісель. Людзі не маглі і блізка да акіяна падступіцца, ажно нос ім ад смуроду зрывала. А яны ж так любілі на акіянскіх пляжах пузы свае грэць і кока-колу піць. А вось каляровы кісель яны піць так і не навучыліся. Занадта далікатныя былі. Адчуваеш? Клоп вып’е што заўгодна, а чалавек не. Вырашылі людзі, што пагроза над імі, і самі сябе запісалі ў “Чырвоную кнігу”, каб канчаткова не знікнуць. Разам з бабрамі, хахулямі, мядзведзямі і кондарамі апынуліся людзі ў “Чырвонай кнізе”. Ха-ха-ха! Смешна, праўда?

– Не, нешта не смешна, – прахрыпеў Шчупачок. – Дзядзечка Клоп, ты больш не расказвай ні казак, ні быляў, добра? Лепей скажы, што людзі з Хахуляй зробяць? Не з’ядуць? Яна ж такая мілая, пухнатая, насаценькая. І ветлівая.

– Не з’ядуць, – супакоіў Шчупачка Клоп. – Хахулі нясмачныя. На пацука падобныя.

– Не, Хахуля прыгожая! – заўпарціўся Шчупачок. – Калмаценькая!

Тут з ракаўкі вытыркнуў свае рожкі Слімак (ён яшчэ недалёка адпоўз) і дадаў:

– А як прычэшацца, дык сапраўдная прыгажуня зробіцца. Каралеўна Каляровае Затокі! Ёмкі грабеньчык мае – гэта яе кіпцюрастая лапка…У Хахулі ўсё прыгожае – ад хваста да носіка.

– Улялюскаўся… – развёў сваімі шасцю лапамі Клоп. – Рамэо ў ракаўцы. Знайшлі сабе русалку насатую ды хвастатую.

– Маладосць, маладосць… – уздыхала старая Шчупачыха. – Была і я калісьці маладая… Любіла гэтых самых … хахуляў… Аднойчы на сняданак адну такую скушала… Пер’яў, памятаю, поўны рот набіўся… А смаку ніякага… Вось табе і Хахуля…

– Бабуля, ты добра прыгадай, каго з’ела, – перапыніў яе Шчупачок. – Гэта была, мо, птушка якая. Качка.

Але Шчупачыха нічога не слухала і таўкла сваё:

– Ага, ага, смачная была Хахуля, толькі чаго яна была такая пер’ем аброслая?

А Вадзяны Клоп, слухаючы гэтыя гаворкі, усё сваё далдоніў. Ён, бачыце, ужо не мог інакш гаварыць, чымся казкамі або былямі. І на гэты раз склаў якуюсь байку:

– Не, людзі не будуць есці гэную Хахулю, бо яна нясмачная. І ўся ў поўсці. Яна прыгожая, а людзі хараство любяць. Так што яны, можа, чучала з яе зробяць. Усё будзе добра, ты не турбуйся, Шчупачок. Чучалам не так і кепска быць. Адна мая сваячка – блыха – жыла ў чучале бабра. Яна казала, што вельмі добрае чучала было, утульнае, цёплае. Вочы ў чучала былі прыгожыя – шкляныя, блакітныя. Можа, і Хахулі шкляныя вочы ўставяць. Тады яна яшчэ больш папрыгажэе. І ў нашай казцы будзе добры канец.

Толькі Шчупачка такі добры канец чамусьці не ўзрадаваў, бо ён зароў на ўсю Каляровую Затоку (адкуль толькі голас узяўся, толькі што быў хрыпаты!):

– Не хачу, не хачу, не хачу, каб з Хахулі зрабілі чучала!

І тут раптам у Затоцы пачулася гучнае “Боўць!” І адразу запанавала цішыня.

І ўсе падводныя жыхары прыціхлі, гледзячы адно на аднаго і варушачы плаўнікамі, клюшнямі, вусамі, жабрамі, ножкамі, рожкамі і хвастамі.

Праз некаторы час вы даведаецеся, што азначала гэтае гучнае “Боўць!” (калі самі не здагадаліся). А пакуль

што прапаную прагуляцца на бераг і паглядзець, што робіць Апантаны Рыбалоў, якога пакусала Хахуля.

***Гісторыя дзевятая.*** ПРА ТОЕ, ЯК АПАНТАНЫ РЫБАЛОЎ ПЕРАЙШОЎ АД СЛОЎ ДА СПРАВЫ І СПАТКАЎСЯ З АПАНТАНЫМ АЛХІМІКАМ

Апантаны Рыбалоў тымчасам працягваў бурчэць і наракаць на тых, хто праз усю планету працягнуў да рэчак, азёраў, мораў ды акіянаў якіясь трубы.

– Я даўно заўважыў, што ў гэтым свеце нешта не тое дзеецца! Ловіш, ловіш рыбку, потым пачнеш яе цалаваць – а ад яе мазутай смярдзіць! Не, з гэтым нешта трэба рабіць! Вось зараз пайду і знайду гэтага ашалелага Алхіміка і ўсю праўду яму выкажу! Дастаў ён са сваёй трубою! Хутка ва ўсім свеце не застанецца чыстага вадаёма для рыбалкі!

З гэтымі словамі Апантаны Рыбалоў зматаў свае вуды і спінінгі, прыхапіў дзеля смеласці свінцовае грузіла вагою з кілаграм і пайшоў шукаць Алхіміка. А як яго шукаць? Ведама, як. Па трубе. Ідзеш, ідзеш уздоўж трубы – і яна прывядзе цябе неадменна да таго, хто гэтую трубу праклаў.

І куды ж яна яго прывяла? Натуральна, у лабараторыю да Апантанага Алхіміка.

(Сёння алхімікі як бы зваліся, замест іх працуюць звычайныя хімікі, але ж мы памятаем, што дзеянне адбываецца ў казцы, трохі падобнай на быль).

Зазірнуў Апантаны Рыбалоў у вакно дамка – і пабачыў, што памяшканне падзелена на дзве паловы. Злева – камп’ютэр з маніторам ва ўсю сцяну, на экране мільгаюць пакручастыя лініі і дыяграмы. А справа – авохці мне! – распалены да чырвані горан, молат сам сабою ходзіць, мяхі дыхаюць, а вакол – шкляніцы, біклажкі, пудэлкі, колбы, прабіркі… Па сценах развешаны зёлкі і сушаныя грыбы. Чорны кот каля вагню грэецца, поўсць на ім іскрыцца. А вочы – бы фары ў “Мерсэдэса”. На верхняй паліцы пугач вачыма лыпае. Сур’ёзны, бы Імануіл Кант.

На вагні стаіць чорны саган, нешта ў ім булькоча і бурапеніць, а да сагана прыроблена празрыстая труба, бачна, як па ёй бяжыць каляровае цечыва. Па каморы мільгаюць водбліскі – то фіялетавыя, то ружовыя, то колеру каціных вачэй. Вось, значыцца, адкуль сплывае атрута ў Каляровую Затоку!

А гаспадар, рухавы дзядок у доктарскай шапачцы, перабягае то налева, то направа. Ідзе налева – па клавіятуры паляпае, ідзе направа – нешта ў сагане памяшае. А молат усё стукае ды стукае. А поліўка ў сагане кіпіць ды кіпіць.

За гэтым стукатам, за гэтым бурленнем ніхто не пачуў, як Апантаны Рыбалоў таргануў за званочак. Дык ён мусіў увайсці без запрашэння і павітацца:

– Добры дзень у хату!

– Ізноў турысты!.. – буркнуў Апантаны Алзімік, не адрываючыся ад камп’ютэра. – Кот Бурштын, пакажы шаноўнаму госцю, што да чаго.

У алхімікаў каты заўжды размаўляюць. І гэты не быў выключэннем. Ён паказваў хвастом і лапаю, дзе што якое і муркатаў па-чалавечы:

– Вось гэты малаток куе філасофскі камень. Ён патрэбен, каб усё ў золата абарочваць. Пры яго дапамозе нават ваша, перапрашаю, лысіна, пазалацее.

– А ў гэтым сагане, – працягваў паказваць кот Бурштын, – панацэя варыцца. Гэта, значыцца, лякоба ад усіх хваробаў. Калі вашэць, прыкладам захварэе на грып або свінку, мігам вылечым. Нагу паламаеце – і нагу склеім.

– А гэта што? – запытаўся Апантаны Рыбалоў, паказваючы на бутлю з зеленаватай вадкасцю, у якой боўтаўся апалонік з надзвычайна вялікай галавой.

– А гэта – чалавек новай эры, – ахвотна прамуркаў кот Бурштын. – Гамункулюс, чалавек з прабіркі. Абсалютна дасканалая істота. Вочынна красівы, вужасна прыўкрасны, усё на свеце ўмее, нават на мандаліне грае. Ён яшчэ маленькі, але хутка вырасце. Прыйдзе час – і ён са сваімі братамі заселіць усю планету.

– Я ўсё разумею, – сказаў Апантаны Рыбалоў, – але патлумачце мне, панове, нашто ўсё гэта?

Настала цішыня. І тут падаў голас пугач.

– Усё існае нямарнае! Усё марнае няіснае! Калі яно існуе, значыць так і трэба! І хто пераступіць цывілізацыі дарогу да прагрэсу і абсалютнага шчасця?!

Вось так вось ён правухкаў.

– Прагрэс – гэта добра, – сказаў, памаўчаўшы, Апантаны Рыбалоў. – Але вы, шаноўныя, са сваёй кухняй мне рыбалку псуяце. Вашы адкіды загубілі Каляровую Затоку. Бадай усё жывое ў ёй знішчылі.

– Вы паміраеце з голаду, калега? – запытаўся Апантаны Алхімік. – Дык магу падзяліцца з вамі сінтэтычнай ежай. Маю сінтэтычнага карпа, сінтэтычную чорную ікру, сінтэтычных вустрыцаў. І для іх вырабу я не знішчыў аніводнай жывой істоты. Гэта вы, шаноўны, вашымі вудамі ды спінінгамі забіваеце бедных рыбак.

– Я не забіваю... – прамармытаў збянтэжаны Рыбалоў. – Я іх у носік цалую і адпускаю...

Тут усе засмяяліся – кожны па свойму. Асабліва страшна рагатаў пугач. Апантаны Рыбалоў адчуў, як у яго мурашкі па лысіне забегалі.

А пасля запанавала цішыня. Страшная цішыня.

Пасля такой цішыні звычайна пачынаецца бойка. Нават аўтаматычны молат перастаў стукаць.

“А што, – мільганула ў галаве ў Апантанага Рыбалова, – калі гэты малаток зараз па маёй лысіне застукае, а не па філасофскім камні?”

Слушна ў ягонай галаве мільганула. І вельмі добра ён зрабіў, калі падаўся да выхаду.

– Экскурсія закончана, – прамовіў Апантаны Алхімік, выправаджваючы госця з дому.

Апантаны Рыбалоў сыходзіў больш паспешлівым крокам, чым ішоў сюды. Можна сказаць, бег. Бег ды азіраўся: ці не гоніцца за ім Апантаны Алхімік са сваёю мешалкай. Ці не ляціць, вухкаючы, страшны пугач. Ці не свеціць вачыма кот Бурштын.

Але на даляглядзе маляваўся толькі Алхімікаў дом. Ніхто з яго не выбягаў. Толькі труба цягнулася ад дамка да Каляровай Затокі, даўгая, на цэлыя кіламетры. У трубе гучна булькатала. Па трубе плыло загадкавае каляровае рэчыва. З коміна, што тырчэў на даху дамка, бруіўся ружаваты дымок.

У дамку Алхіміка гатавалася шчасце для чалавецтва. Толькі ніхто не пытаўся, ці хоча чалавецтва гэтага шчасця.

Вось так няўдала скончыліся перамовы Апантанага Рыбалова з Апантаным Алхімікам.

***Гісторыя дзесятая.*** ПРА ТОЕ, ЯК ВЯДОМАЯ НАМ АСОБА ВЯРНУЛАСЯ Ў КАЛЯРОВУЮ ЗАТОКУ

Вось такія справы... А за якім заняткам мы пакінулі нашых падводных жыхароў?

Памятаеце, як з берага пачулася гучнае “Боўць!”?

І ўсе падводныя жыхары прыціхлі, гледзячы адно на аднаго і варушачы плаўнікамі, клюшнямі, вусамі, жабрамі, ножкамі, рожкамі і хвастамі.

Але нядоўга яны так варушылі ўсім гэтым, бо следам за “боўцем” паказалася Хахуля, жывая і здаровая, такая ж насаценькая і пухнаценькая і яшчэ больш сімпатычная, чым была раней. Як быццам пабывала на выставе футраў у Парыжы і набыла сабе новае футра.

Карысна часам вылезці з Каляровай Затокі і павандраваць па беразе. Калі, вядома, цябе не кідаюць у мяшок.

Была Хахуля вясёлая і жыццярадасная.

– А вось і я! – паведаміла яна. – Не засумавалі без мяне? А хто тут у вас румзае?

– Гэта я плачу, – адказваў Шчупачок. – Вельмі я без цябе засумаваў. Ад гэтага мне горла забалела. Ад гэтага і румзаю. А ты праўда жывая, Хахуля? Ты не чучала?

– Сам ты чучала! – весела адказвала Хахуля. – Усе вы тут чучалы, хоць я вас тут усіх люблю невядома за што. Я жывая! Можаце мяне памацаць.

Усе сталі абмацваць Хахулю, хто вусікамі, хто клюшнямі, хто плаўнікамі, а хто рожкамі.

– А ці праўда ты жывая, Хахуля? – запыталася старая Шчупачыха. – Дай жа я цябе на зуб пакаштую!..

– А Хахуляў на зуб каштаваць няможна! – адгукнулася Хахуля. – Гэта шкодна для здароўя і для жывой прыроды. Пра гэта і ў “Чырвонай кнізе” напісана. Ці не праўда, дзядзька Вадзяны Клоп?

– Чыстая праўда, – прызнаўся Вадзяны Клоп. – Але разумная ты стала, Хахуля, як я пагляджу. Дзіва што – у дзвюхногіх у лапах пабывала.

– Пабывала. І вялікай радасці ад таго не маю. Надта груба яны з паненкамі абыходзяцца. Ледзьве што – адразу ў клетку кідаюць. За краты. А яшчэ і за хвост балюча хапаюць. Што гэта за манера такая – за хвост хапаць? Вас, дзядзька Вадзяны Клоп, хто-небудзь калі-небудзь хапаў за хвост?

– Хай бы паспрабаваў! – абурыўся Клоп. – Ён бы тады адчуў, што такое Вадзяны Скарпіён! Ды я б яго ды так цяпнуў!..

– Вось і я не вытрымала здзеку і таксама яго я-ак цяпнула! А ён я-ак закрычыць! І адразу мой хвост з рук выпусціў. А я не будзь дурная – у рэчку шусь! А што? А з ім нічога не будзе ад таго, што я яго пакусала?

– Можа і будзе, – па-філасофску разважыў Вадзяны Клоп. – Скажам, гангрэна якаясь завядзецца... Можа пальчык і забалець. А пасля пальчык могуць і адрэзаць... Шкада яго, хоць ён і чалавек.

І Вадзяны Клоп прыкінуўся, што румзае. Нават вочы лапкамі працёр.

– Ды вы што, змовіліся ўсе – хварэць, каб я вас шкадавала? – закрычала Хахуля. – Перастаньце! Мне дык вось аднаго Шчупачка шкада. Што з табою, бедны?

– Што з ім? – азвалася Шчупачыха. – Накрычаўся, набедаваўся гаротны, пакуль ты з тым Чарвяком па людзях ваяжыравала. Яшчэ з трубы папіў напою карычневага ды халоднага. “Колай” той напой называецца.

Хахуля наблізілася да Шчупачка, памацала ягоны лоб.

– Дык яго лячыць трэба! – закрычала Хахуля. – У яго ж лоб гарачы. У яго, можа, ангіна. Або запаленне жабраў.

– Вылечаць, – упэўнена праказаў Вадзяны Клоп. – У нас з трубы даволі часта жывы пеніцылін цячэ. Не труба, а сапраўдная аптэка.

– Яму адно толькі дапаможа – чыстая вада, – сказала Хахуля. – Яго на чыстую ваду трэба тэрмінова вывесці. А ў вас тут дыхаць няма чым. Мне самой ужо млосна робіцца. Вой, нешта ў галаве закруцілася.

– Глядзі ты, якая далікатная стала, – бурчаў Вадзяны Клоп. – Бачылі такую? Ты чуў такое, Слімача? Ды вызірні ты са сваёй ракаўкі нарэшце ды паглядзі, што за дзіва дзіўнае тут творыцца.

– Не замінайце мне, я заняты, – адказваў з ракаўкі Слімак. – У мяне неадкладная справа. Я бягу паненку Хахулю ад бяды ратаваць…

– Яе ўжо не трэба ратаваць, – прамовіў Вадзяны Клоп. – Яна сама каго хочаш уратуе, твая кусачая паненка. Вярнулася яна, твая хвастатая.

– Праўда! – узрадаваўся Слімак, паказаўшы рожкі. – Шкада, што вы так хутка выратаваліся, паненка Хахуля. Бо я так марыў вас сам выбавіць, так спяшаўся!..

Не трэба Слімака судзіць занадта строга за тое, што ён усяго якіх паўметра за гэты час прапоўз. На брусе надта цяжка поўзаць. Хаця б конь у яго які быў, самы лядашты. Плывунцы вунь як пад вадой сігаюць – бы чорныя маланкі, дык на тое яны і жукі. А гэты ўсё жыццё на брусе ды на брусе, яшчэ і дом на плячах цягае. Дзе ж ты бачыў.

– Дзякуй, Слімачок, – азвалася Хахуля. – Вы сапраўдны рыцар.

І тут магла б разыграцца кранальная сцэна сустрэчы прыўкраснай хвастатай паненкі з яе мужным і высакародным рагатым рыцарам, але перашкодзіла таму новае “боўць”. Не такое гучнае, але надта настойлівае і знаёмае. А што было прычынаю таго “боўць”, пра гэта мы даведаемся з анступнай гісторыі.

***Гісторыя адзінаццатая.*** ПРА ТОЙ ГРАНДЫЁЗНЫ ПОСПЕХ, ЯКІ МЕЎ ЧАРВЯК ПА ВЯРТАННІ З КАЛЯРОВАЙ ЗАТОКІ

Мы нейк забыліся пра Чарвяка, які па вяртанні з Каляровай Затокі хутка ачомаўся ад стрэсу і, седзячы ў роднай цёплай кучы гною, даваў інтэрв'ю карэспандэнту "Падземнай газеты", якога звалі Мядзведка.

Гэты Мядзведка, хоць меў выгляд не дужа імпазантны, (падобны быў на цвыркуна, коніка, пацука і крата адначасна), затое мог пратачыцца ў чужы агарод, на чужую дзялянку і адусюль прынесці "смажаную" навіну.

(Вядома, навіны ніхто не смажыць. Навіна – гэта не кілбаса і не яйка, каб яе смажыць. Проста так гавораць, калі навіна свежая і яшчэ сквірчыць, бы яйка на патэльні. А старыя, астыглыя навіны ніхто не любіць).

Напрыканцы размовы Мядзведка сфатаграфаваў Чарвяка па сегментах і ў поўны рост і шпарка папоўз у рэдакцыю.

Неўзабаве ўвесь падземны свет даведаўся пра існаванне Каляровай Затокі, а, галоўнае, пра геройскі подзвіг самога Чарвяка, які, пісаў карэспандэнт, "бы легендарны Кусто, наведаў падводны свет, атручаны трубой, і вярнуўся на радзіму, абкрыты, казаў той, з галавы да ног бліскучай славай".

(Хаця што гэта за выраз – "з галавы да ног"? Тут Мядзведка перабольшыў. Галава ў Чарвяка ёсць, а ногі? Вечна яны прыдумляюць, гэтыя журналісты).

Публікацыя пра Чарвяка разарвалася ў падземным свеце бы бомба. Асаблівы поспех мела яна сярод падземных паненак – макрыц, сараканожак, лічынак майскага жука.

Усе Чарвяком захапляліся:

– Які смелы! Не пабаяўся ў ваду скакаць!

– Які гнуткі мужчына!

– Які фотагенічны!

– Як ён, напэўна, добра глядзеўся на сваім кручку!

Былі, аднак, і моманты крытыкі.

– Як шкада, што ў яго няма ножак, – пачуўся ў агульным хваласпеве голас пажылой Сараканожкі.

Але ёй запярэчыла маладая Сараканожка:

– Што вы ведаеце пра сучаснае жыццё, цётухна! Генетыка крочыць такімі магутнымі крокамі! Спатрэбіцца – і ножкі ў яго адрастуць.

І ўсе паненкі марылі пра тое, каб “акальцаваць” знакамітага Чарвяка. Гэта значыць, заручыцца з ім і ажаніцца.

(І гэта не выдумка. Чарвякі часам носяць на сабе заручальныя пярсцёнкі. Прыгледзьцеся, калі ўскопваеце агарод. Абавязкова вам трапіцца на вочы хаця б адзін “акальцаваны” Чарвяк).

Нарэшце рэдактар “Падземнай газеты”, вельмі салідны Крот, запрасіў Чарвяка ў рэдакцыю для сур’ёзнай размовы.

– Дык гэта вы і ёсць, герой нашага часу? Гм, гм… – казаў Крот, разглядаючы Чарвяка праз шкельцы пенсне ў залатой аправе.

Краты нічога не бачаць, хоць ты чапляй на іх акуляры, хоць не чапляй. Затое ў іх магутныя нюх і інтуіцыя. Гэты Крот адчуваў будучую сенсацыю на нюх. Таму ён, не задумваючыся, запрапанаваў Чарвяку:

– Вы ўжо здзівілі падземны свет адзін раз, шаноўны Чарвяк. Але здзіўленне хутка праходзіць. Праз якія два-тры дні падземны свет будуць цікавіць іншыя навіны. Напрыклад, пра ўнясенне арганікі пад азімыя. Дык давайце яшчэ раз скаланем нашу кучу гною!

– А хто будзе скаланаць? – абачліва папытаўся Чарвяк.

Ён, бачыце, быў не толькі славалюбівы, але і асцярожны.

– Скаланаць будзе наша “Падземная газета”, – працягваў Крот, бліскаючы пенсне. – А ад вас патрабуецца тое, што вы ўжо ўмееце. Гэта значыць – атрымаць камандзіроўку, сесці на кручок (білет у два канцы мы вам аплоцім, камандзіровачныя, сутачныя, ганарар само сабою), ізноў абследаваць Каляровую Затоку, узяць інтэрв’ю

ў яе жыхароў. Але самае галоўнае ў вашай падводнай місіі будзе наступнае…

Тут Крот панізіў голас і зашаптаў. Зашаптаў ён так ціха, як гэта ўмеюць краты. Мы нічога не пачулі і не можам сказаць, якую-такую сакрэтную прапанову ён рабіў Чарвяку. Але рана ці позна ўсё раскрыецца.

Чарвяк, пачуўшы прапанову, пачаў нервова круціцца.

– Не, не і не, – сказаў ён. – Паспрабавалі б вы самі ездзіць на кручку. Гэта вам не бізнес-клас.

– Але ж вы згадзіліся тым разам…

– Мяне наймаў Апантаны Рыбалоў. Між іншым, выпісаў адпаведную ўзнагароду…

– І колькі было тае ўзнагароды, дазвольце спытацца?

Чарвяк скрывіўся і нічога не адказаў.

– Ясна. Я абяцаю вам, калі місія завершыцца ўдала, ганарар вышынёй з кратовую горку.

(Ці даводзілася вам бачыць у бабуліным агародзе кратовыя горкі? Краты рыюць сабе ды рыюць. Такая ў іх прафесія, так яны ўсе робяць. А вырытую глебу яны выкідваюць на паверхню. Асобныя краты робяцца рэдактарамі газет, але большая частка так і рые праз усё жыццё. Не ўсе гаспадары іх разумеюць Адныя кажуць, што краты шкодныя, псуюць моркву, буракі, падсушваюць карані дрэў. А другія кажуць, што карысныя, бо глебу рыхляць. Тут адразу не разбярэшся. Але ў тым, што кожная жывёліна дзеля нечага патрэбная, у гэтым я не сумняваюся).

Чарвяк вагаўся.

– Не сумнявайцеся. Гэта будзе якраз тое, што вы найболей любіце.

– Тады згодны, – сказаў Чарвяк.

***Гісторыя дванаццатая.*** ПРА ТОЕ, ЯК У КАЛЯРОВАЙ ЗАТОЦЫ ІЗНОЎ З'ЯВІЎСЯ ЎЖО НЕ ЗУСІМ ЗАГАДКАВЫ НЕЗНАЁМЕЦ (ПРЫГАДАЙЦЕ ГІСТОРЫЮ ПЯТУЮ)

Дык цяпер ужо вам зразумела, чаму ў Каляровай Затоцы пачулася гэтае невялікае “боўць”. Невялікае, бо Чарвяк – усё ж такі не Хахуля, вагавая катэгорыя іншая.

Так, Чарвяк ізноў боўтаўся на кручку. Але на гэты раз ён быў з фотакамерай, якая каштавала, мабыць, не менш, чым адзін невялічкі горад.

Падводныя жыхары абкружылі Чарвяка і моўчкі талопіліся ў яго. Але ён не звяртаў на іх аніякае ўвагі, толькі з адной Хахуляй вітаўся і размаўляў.

Цяпер гэта быў яшчэ больш развязны і балбатлівы Чарвяк. Што паробіш? Хуткая слава псуе не толькі людзей, але і чарвякоў.

– Прывітанне, паненка Хахуля! – забалабоніў Чарвяк. – Як тваё неацэннае здароўе. А вось Апантанаму Рыбалову блага, зусім блага. Ты нашто яго так балюча цяпнула? Ён усё-такі інтурыст. Зрэшты, усё да лепшага. Не цяпнула – дык не праславілася б на ўвесь падземны свет. Ці ведаеш ты, Хахуля, што пра цябе цяпер уся прэса гаворыць? Цяпер ты паедзеш са мною ў рэдакцыю. Там ты давацьмеш інтэрв’ю, цябе будуць фатаграфаваць, а прэса ізноў будзе шумець. А потым ты, можа, патрапіш на конкурс прыгажосці. І пра цябе будуць казаць: “Хахуля – міс хараства падземнага свету”!

– Я не ведаю, хто такая прэса, – адказвала Хахуля. – Няхай яна сабе гаворыць пра мяне ўсё, што хоча, але лепей хай бы памаўчала. А на конкурс хараства мне нізавошта не патрапіць, бо ў мяне нос задоўгі.

– Ты патрапіш! Ты абавязкова патрапіш! – Чарвяк нецярпліва круціўся на кручку, бо ад каляровай вады яму рабілася млосна, і ён спяшаўся як найхутчэй выканаць сваю місію. – Доўгія насы ўваходзяць у моду. Цяпер паненкі спецыяльна нарошчваюць насы, каб паспяваць за еўрапейскай модай. Дык збірайся, насатая паненка, хутчэй! Цябе чакаюць апладысменты, фотакамеры і кветкі!

– Я кветак не люблю. Я іх не ем, – прастадушна адказвала Хахуля. – І ў камеру мне таксама нешта не хочацца.

– Шаноўны, а мой нос ці адпавядае модзе? – спыталася Шчупачыха і разявіла пашчу.

– Адступіцеся, мадам, ваш час прайшоў гадоў сто пяцьдзесят таму! – няветліва перапыніў яе Чарвяк. – Дык што, Хахуля, паплылі наверх? Да славы і воплескаў?

– Я не люблю шуму… – прызналася Хахуля. – Здаецца, жыла б і жыла  ў сваёй норцы, абы ніхто не перашкаджаў. А па начах, пры месяцавым ззянні, купалася б і гуляла ў хованкі з кузуркамі… Гэта так рамантычна…

– Табе адно гулі наўме, – ушчуваў яе Чарвяк. – Легкадумная! Правінцыялка! А пакусанаму табой Апантанаму Рыбалову ўжо не да гуляў. Яму прышчэпкі ад шаленства збіраюцца рабіць. Бедны яго жывот! Нешчаслівы ён! Хоць бы ты паказалася наверх, медкамісію якую прайшла, каб даведаліся, што ты здаровая.

– Бедалажка… – уздыхнула Хахуля. – Няўжо там, наверсе, усё так строга?

– Не вер ты яму! – закрычаў Шчупачок.

Ён да гэтага часу з разяўленым ротам слухаў той падман, які вёрз Чарвяк, але нарэшце ачомаўся і абурыўся.

– Хахуля! Ты што не бачыш, як ён маніць! А яшчэ журналіст! Не ідзі з ім! Яны з цябе чучала зробяць!

– Чучала? Не хачу! – схамянулася Хахуля.

– Ну й дзівачка! Ты ў тэлевізар патрапіш, разумееш, дурнічка? – угаворваў яе Чарвяк.

– А што такое тэлевізар?

– Тэлевізар – гэта такая каляровая скрынка…

– Скрынка? Не хачу ў скрынку! – рашуча запратэставала Хахуля.

– Цямнота! Апошні раз пытаюся: ці пойдзеш са мною да славы?

– Не… Нешта боязна мне, – адказвала Хахуля.

– Цямнота і дзікунства гэтай Затокі не мае межаў, – канстатаваў Чарвяк. – Ну, падстаўляйце свае неадукаваныя рылы, я зараз вас на камеру здымаць буду! Прашу ўсміхнуцца!

Усе заўсміхаліся. Уяўляеце, як усміхаецца Шчупачыха, якой трыста гадоў?

– Ну й красуні тут у вас, – прамармытаў Чарвяк. – Што ж, мая місія закончана. Выдам у “Падземнай газеце” фотарэпартаж пад назваю “Грымасы цямноты і дзікунства”. Хоць які-ніякі ганарар ды атрымаю. Гэй, там, наверсе! Выцягвайце мяне назад!

І Чарвяк велічна паплыў дагары, седзячы на сваім кручку.

***Гісторыя трынаццатая.*** ГЭТА ДАВОЛІ КАРОТКАЯ, АЛЕ ЗМЯСТОЎНАЯ ГІСТОРЫЯ ПРА ТОЕ, ЯК ШЧУПАЧОК І ХАХУЛЯ (А СЛЕДАМ ЗА ІМІ І СЛІМАК) АДВАЖВАЮЦЦА НА СМЕЛЫ ЎЧЫНАК

Пасля таго, як Чарвяк адплыў, на падводных жыхароў напаў нейкі одум. Гэта значыць, што яны сядзелі нерухома, і кожны думаў сваё. Можа, таму спрыяў і колер вадкасці, што сплывала з трубы, – бялёсы, з блакітным адлівам.

Першы ачомаўся Вадзяны Клоп і сказаў:

– Цяпер нам спакою не будзе ад дзвюхногіх. Гэты вяртлявы разнясе пра нас пагалоску па ўсім свеце. Ведаю я гэтых журналюгаў. А ўсё гэтая насатая вінаватая.

З гэтымі словамі ён паказаў на Хахулю.

– Чым жа яна вінаватая? Ёй і так дасталося.

Гэта падаў свой голас з ракаўкі Слімак. Дзіўныя рэчы адбыліся з гэтым мякчаком. З нядаўняе пары ён пачаў адчуваць сябе як бы рыцарам, заступнікам усіх кволых і бездапаможных істотаў. Хаця яго самога ледзьве бараніла ад страхаў жыцця ягоная крохкая ракаўка…

– Бруханогім слова не давалі, – абсек яго Вадзяны Клоп. – А ты, насатая, прызнавайся, што ты там людзям нагаварыла пра нашу Каляровую Затоку? Каму ты там, наверсе, інтэрв’ю давала, га? Прызнавайся! Бо я ўсё адно выведу цябе на… брудную ваду.

– Я стамілася, – адказала Хахуля. – Я стамілася ад вашае бруднае вады. Мне ўжо нічога не хочацца. Толькі аднаго хочацца: каб неба было блакітнае, і каб вада пад небам была блакітная, і каб пясок быў жоўты, і каб у пяску

хоць якую норку вырыць. І яшчэ хачу, каб Шчупачок быў здаровы.

Шчупачок у гэты час займаўся тым, што кашляў.

– Чуеце, як ён кашляе? – гаварыла Хахуля. – Я ведаю, што яму можа дапамагчы. Чыстая вада – вось адзіная для яго лякоба.

– А што такое чыстая вада? – спытаўся хрыпатым голасам Шчупачок. – Яна смачная?

– Яшчэ якая смачная! Ведаеш што, Шчупачок? Па дарозе сюды, як ад кароў уцякала, я знайшла адну крынічку. Вада ў ёй халодная і празрыстая. Вада бруіцца паміж каменьчыкаў, спяшаецца да ракі і скача з берага ў рэчку. Шкада, што вось надта цененькая гэтая ручаінка, нары каля яе не пабудуеш. Але напіцца можа. Дык вось, Шчупачок, хадзем са мною да крынічкі. Нап’ешся з яе – і можа горла тваё палепшае. Паплылі са мной, я дарогу ведаю!

– Паплылі! – загарэўся Шчупачок.

– Куды?! – страпянулася Шчупачыха. – Куды з Каляровае Затокі? А ці ведаеце вы, што там, на краі свету, дзе вада з небам сутыкаецца, жыве страшны Чмых?

– Што гэта за істота такая – Чмых? – запыталася цікаўная Хахуля. – Ён страшны? Кусаецца ён?

– Яшчэ які страшны! – сказала Шчупачыха.

І пачала распавядаць показку пра страшнага Чмыха. Не аднаму ж Вадзяному Клапу страшныя казкі расказваць!

– Страшны Чмых пасяліўся там, дзе канчаецца каляровая вада і пачынаецца празрыстая. У яго доўгі і шырокі нос, як бы труба, на якой людзі маршы граюць. І гэтым сваім носам-трубой ён час ад часу вось так робіць: “Чмых!”, “Чмых!” Калі хто прыплыве ва ўладанні Чмыха, дык у таго ад чмыхаў пачынае ў галаве круціцца і на сон яго хіліць пачынае. А калі гэты плывун засне, Чмых яго сваім носам-трубой і засмокча. Не хадзіце, дзеткі, у краіну Чмыха, – гэтым скончыла сваю страшную показку Шчупачыха.

– Забабоны і невуцтва! – запярэчыў вучаны Клоп. – Ніякіх Чмыхаў у прыродзе не бывае. Але ёсць закон, які забараняе нашу Каляровую Затоку пакідаць. Бо чыстая

вада – не для нас. Ад чыстай вады ў каго хочаш у галаве закруціць.

Пакуль яны дыскутавалі, Хахуля са Шчупачком рушылі ў дарогу.

– Авой, авой, вы куды? – загаласіла Шчупачыха. – Вярніцеся зараз жа! Хіба не чулі, што казаў дзядзька Клоп?

– Не руш, няхай плывуць, – азваўся Вадзяны Клоп. – Наглытаюцца аш два о, самі папросяцца назад, а мы яшчэ падумаем, прымаць іх у Каляровую Затоку або не прымаць. “Крынічка”... Якая такая крынічка? У свеце няма ўжо ніякіх крынічак. Ад цывілізацыі, разумееце, не ўцячэш!..

– Пачакайце, і я за вамі! – пачуўся голас з ракаўкі.

Вядома ж, гэта быў Слімак. Яму таксама карцела паглядзець на ручаінку з гаючай вадой, і, да ягонага гонару, ён дужа спяшаўся – адразу падключыў пятую перадачу. Толькі ж якая яна ў слімакоў, тая пятая перадача?..

***Гісторыя чатырнаццатая.*** ПРА ТОЕ, ЯК ХАХУЛЯ І ШЧУПАЧОК АДШУКАЛІ ГАЮЧУЮ КРЫНІЧКУ І ШТО З ТАГО АТРЫМАЛАСЯ

Давайце правядзем Хахулю і Шчупачка да гаючае крыніцы. А раптам ім напраўду сустрэнецца ў дарозе які-небудзь Чмых? І хоць дапамагчы мы ім нічым не зможам, бо мы назіральнікі, а не персанажы гэтай казкі, дык хоць маральна іх падтрымаем.

Дзіўнае гэта было падарожжа! Хахулін нос рассякаў паверхню Каляровай Затокі, так што Хахуля здавалася маленькім параходам. Шчупачок плыў за ёю, трымаючыся каля дна.

Свет вакол іх быў як бы намаляваны. Так усё ціха і спакойна было наўкол – добрую часіну выбралі яны для вандроўкі! Яны рухаліся – і як бы пераплывалі з адной карціны ў другую. На першай карціне фарбы сварыліся паміж сабой – аранжавы колер змагаўся з фіялетавым, а ультрамарынавы ваяваў з карычневым. На другой карціне фарбы супакоіліся, памірыліся і дамовіліся, што неба будзе блакітным, або белым, або шэрым, або залацістым – на

золку, або барвовым – на захадзе сонца. А рэчка, бы жывое люстэрка, будзе сачыць за колерамі неба. А вербалоз, асака і аер будуць зялёнага колеру, пакуль іх не перафарбуе восень.

Дык вось, калі Затока перастала быць Каляроваю, а сталася проста рэчкаю, штось адбылося. Шчупачок усё круціў галавою – мабыць, пабойваўся чагось, можа, таго самага Чмыха, у якога нос што труба… І хоць ніякага Чмыха не было, але Шчупачку напраўду стала млосна.

Хахуля, пабачыўшы гэта, падхапіла яго пад жабры і пацягнула далей. Балазе, да гаючай крынічкі засталіся якія тры чалавечыя крокі.

– Патрывай, маленькі, – прыгаворвала Хахуля (хаця які “маленькі”, калі ростам ён быў з Хахулю, разам са сваім хвастом і носам, хай сабе і ў яе таксама былі нос і хвсот). – Ужо блізка.

Яна пасоўвалася па беразе, далікатна ведучы Шчупачка па ручаінцы бо рыба ёсць рыба – яна без вады не можа.

Крынічка была цененькая, бы націнка, а толькі не зялёная, а празрыстая з блакітнаю смугой, ды такая сцюдзёная, якой бывае толькі самае халоднае ў свеце марозіва.

У калюжынцы, куды падаў халодны струменьчык, хапіла прасторы ім абаім – Шчупачку і Хахулі. Хахуліна футрачка адразу згубіла свае вясёлкавыя фарбы і вярнула сабе эфектную срэбную афарбоўку. Шчупачок як быў, так і застаўся вясёлкавы. Каляровую расфарбоўку атрымаў ён ці не на ўсё жыццё. Але самае галоўнае – ён ачуняў і пачаў кружляць вакол Хахулі, і нават зяпаю пачаў пазяхаць, як быццам куснуць хацеў. Хахулі на момант нават страшна зрабілася – як-ніяк, а зубкі ў Шчупачка востранькія, беленькія. Але яна ведала, што Шчупачок добры.

– Як тут хораша! – прамовіў нарэшце Шчупачок. – Вось бы тут пасяліцца ды жыць.

– Прасторы малавата, – уздыхнула практычная Хахуля. – Метраў не хапае. І норку тут няма як вырыць…

– Як шкада… А як бы добра было б сюды перацягнуць усіх нашых – і прабабулю, і Слімака, і дзядзьку

Вадзянога Скарпіёна… Напэўна, тут бы ён не насмеліўся расказваць казку пра тое, як усе паздыхалі, а разумны Клоп застаўся. Напэўна, прыдумаў бы штось добрае…

Хахуля прыхарошвалася, Шчупачок накручваў кругі вакол яе, але гэты карагод спыніўся самым сумным чынам. Проста нейкая катастрофа адбылася.

Спачатку ў вадзе загуло: “Бамм!..”, “Бамм!..”, “Бамм!..” Зямля літаральна скаланалася ад тых гукаў.

Ведама, у вадзе ўсе гукі мацнейшыя, чым на паветры. Проста такі па вушах б’юць, як тыя званы.

А пасля тых “Бамм!..” яшчэ больш выразна і страшна зарыкала “М-му!!!”

Хахуля кемлівай, дасведчанай паненкай была. Таму яна адразу Шчупачку шапнула:

– Каровы! А з імі – пастух! Страшны-страшны! Уцякайма!

Шчупачок таксама не дурны быў. Ён ведаў: дзе людзі – там небяспека.

І яны адначасна далі нырца ў ваду. Хахуля элегантна скінулася з берага галавой у вір – ну рыхтык алімпійская чэмпіёнка па скачках у ваду.

(Толькі купальнік свой забылася начапіць. А можа, на Хахуляў купальнікаў яшчэ не пашылі. Шкада. Яна яшчэ лепш глядзелася б у ім).

Шчупачок, павесялелы пасля кіслароднае ванны, боўтнуўся ў рэчку разам з ручаінкаю.

Хахуля і Шчупачок, апынуўшыся ў бяспецы, вытыркнулі з вады свае цікаўныя пыскі і пачалі сачыць за тым, што адбывалася на беразе.

А там, уласна, нічога новага не адбывалася. Ізноў пастух прыгнаў на вадапой свой статак.

Каровы – таксама жывыя істоты. Ім таксама і піць, і кушаць хочацца. Толькі ж людзям часам трэба думаць, дзе гэта можна рабіць, а дзе няможна.

Прынамсі я не раіў бы гнаць статак цераз крынічку з гаючай вадой.

А пастух, можа, пра тую крынічку нічога і не ведаў. У яго свая праца. Ён размахваў ды страляў сваёй пугай, даўжэйшай, чым анаконда, жыхарка Амазонкі.

А для кароў тая пуга была страшнейшая, чым анаконда. Што ім тая анаконда? Яны нават па тэлевізары яе не бачылі. А пуга – яна страшная. І джгае балюча. Ад пярэпалаху каровы застукалі капытамі і ўмомант змяшалі з гразёю і з глінаю гаючую крынічку, і калюжынку каля яе, і ручаінку, што скакала з берага ў рэчку.

Бераг ператварыўся ў кашу-малашу, якую робяць дзеці, што неасцярожна гуляюцца з вадой ды пяском. Толькі я яшчэ не сустракаў такога аматара, які еў бы тую кашку.

Хахуля і Шчупачок яшчэ добра памяталі, якой смачнай была вада з гаючай крыніцы і як добра было плаваць у гаючай калюжынцы. Слёз іхніх ніхто не бачыў, бо ў вадзе слёзы незаўважныя.

Бывай, гаючая крынічка!.. Іншых лекавала, а сама ці ачуняеш? Усялякае можа быць. Вада, казаў адзін філосаф, ёсць істота жывучая і незнішчальная. У адным месцы яе затопчаш – яна ў іншым паўстане. Толькі вось дзе гэта будзе ды калі?

А пакуль што тут гаспадарылі пастух і каровы. Калі яны ўвайшлі ў раку, Хахуля і Шчупачок ужо вярталіся ў Каляровую Затоку.

Тым і скончылася экспедыцыя да гаючай крынічкі.

***Гісторыя пятнаццатая.*** ПРА ТОЕ, ШТО РАБІЛА ГАНАРОВАЯ ПАДВОДНАЯ КАМПАНІЯ Ў АДСУТНАСЦЬ ХАХУЛІ І ШЧУПАЧКА. У ПРЫВАТНАСЦІ І ПРА ТОЕ, ЯК ВАДЗЯНЫ КЛОП ПРАЧЫТАЎ ЛЕКЦЫЮ АБ ШКОДЗЕ ХАХУЛЯЎ

А ў адсутнасць Шчупачка старая Шчупачыха працягвала галасіць:

– Авохці мне! Асірацела я!.. А куды ж яны ўсе паспльвалі!.. Апошні прапраўнук мяне пакінуў!

– Пакінуў, пакінуў!.. – падтакваў Вадзяны Клоп. Уедлівы ён быў дзядзька і любіў развярэдзіць чужую душу, а не тое што спачуваць чужой бядзе. – Патрэбна ты яму, старая?.. Яму гулі наўме. А пра тое не думае, што ён – апошні ў родзе. У Каляровай Затоцы рыба не нерастуе.

– Не нерастуе, вох, не нерастуе!.. – усхліпвала Шчупачыха. – Адкуль жа тут узяцца Шчупачкам?! Вох, гаротная я!

Шчупачыха так шчыра бедавала, такія слёзы горкія пралівала, што вада ў Каляровай Затоцы рабілася ўсё больш падобнай да агурковага расолу. Ажно Клоп не на жарт устрывожыўся.

– Гаротная ты, гэта праўда, – казаў ён, – але навошта ваду саліць? Гэтак мы ў селядцоў ператворымся, а гэты, у ракаўцы – у вустрыцу. Мала нам трубы, адкуль невядома што плыве? Ты лепш падумай пра тое, хто ва ўсім вінаваты? А вінаватая ва ўсім хвастатая. Вось хто звадыяш.

– Няўжо? – здзівілася Шчупачыха. – А мне дык яна пачала падабацца. Пухнатая такая. Ветлівая.

– Ты, Шчупачыха, хоць і шмат гадоў пражыла, а ў звярах не разбіраешся. Табе трэба газеты чытаць. Або лекцыі слухаць.

– Старая я ўжо на лекцыі хадзіць, – сумна азвалася Шчупачыха. – Я вось цябе лепей паслухаю.

Вадзяны Клоп любіў увагу. Любіў, калі знаходзіліся слухачы, хаця б адзін. І ён з задавальненнем распачаў сваю “лекцыю” аб шкоднасці Хахуляў.

– Хахулі – яны што? Яны толькі на першы погляд добрыя такія ды пухнатыя. А насамрэч? Шкодныя яны. Усё з яе пачалося. Бачыш, і прапраўнука твайго збіла з тропу, вывела яго на якуюсь чыстую ваду, а што з таго будзе? Нічога, апроч новай бяды, – казаў адукаваны Клоп. – Бачыш, за ёй ужо сочаць, карэспандэнтаў на кручку падкідваюць. Гэты вяртлявы ўжо пра яе нашрайболіў нарыс у “Падземнай газеце”. З фотаздымкам. Маўляў, у Каляровай Затоцы завялася істота з “Чырвонай кнігі” і выміраць не жадае. Чуеш, чым гэта пахне?

Шчупачыха прынюхалася.

– Не, нічога не чую, – прызналася яна. – Толькі з трубы трохі смярдзіць. Аміякам.

– Тут не носам, а мазгамі варушыць трэба, – даволі груба заўважыў Клоп. – Дык вось, там, на беразе, сёння ўжо ведаюць, якое тут, каля трубы, цудоўнае жыццё, і пачынаюць нам зайздросціць. А заўтра тут павярнуцца не будзе як ад вудаў, кручкоў, сетак, венцераў, мярожаў. Ды што заўтра!.. Я сёння ўжо бачыў адну сетку там, за паваротам. Што гэта значыць? А тое гэта значыць, што людзі хочуць нас вылавіць, каб самім замест нас сюды жыць перабрацца. Каб не трапіць у “Чырвоную кнігу”.

Усё ж такі хітрамудры быў ён, Клоп. Гэта ж трэба ды каб так мудрагеліста закруціць! Шчупачыха слухала яго, разявіўшы зяпу ад страху і захаплення.

– Ага, ага, – пагадзілася Шчупачыха. – Гэта яна ва ўсім вінаватая. Мала што хвастатая, яшчэ і насатая. Я, калі яе пабачыла, адразу скеміла, што бяда будзе. Але ж які ты разумны, Клопе! Сапраўдны вадзяны прафесар. Скажы вось толькі яшчэ адно: што ж нам рабіць цяперака?

– Што рабіць? – перачакаўшы паўзу, важна сказаў Клоп. – Гэта бадай што шэкспіраўскае пытанне. А рабіць трэба вось што…

Ды не паспеў ён сказаць, што трэба рабіць. Бо з берага пачуліся чалавечыя галасы. І гэта было дзіўна. Бо апошнім часам людзі тут не хадзілі. Нават кароў не пасвілі. Што рабіць блізу Каляровае Затокі? Дзівіцца на вясёлкавыя кругі на паверхні вады? Дык, перапрашаю, у тэлевізары і не такое дзіва пабачыш.

А тут раптам забомкала, загуло, так што нават глухаватая Шчупачыха пачула.

Над Каляроваю Затокай гучна перамаўляліся людзі:

– Дык гэта тут бачылі Хахулю?

– Я вам кажу?

– Неверагодна! А дзе доказы?

– Вось вам доказы. Хто мяне за палец цяпнуў? Сляды зубоў яшчэ бачныя.

– А можа вы гэта самі сябе пакусалі? Дзеля сенсацыі.

– Сорамна вам так гаварыць. Вось вазьму і больш не прыеду да вас.

– Жартую, калега, жартую… Але вы кажаце неверагодныя рэчы… Хахуля… Яны даўно звяліся ў гэтых мясцінах! Гэта проста неверагодна! Вам пашчасціла, калі на тое!..

– Не хацеў бы, каб вам так пашчасціла. Мне збіраліся ўжо прышчэпкі ад шаленства шпіляць.

– Чаму ж яна пасялілася ў гэтай атручанай вадзе? Дзіва нейкае… Дзіва прыроды… Калі гэта не памылка, дык яе абавязкова трэба злавіць.

– Яшчэ б! Вычарпаю ўсю ваду ў Затоцы, але злаўлю!

Галасы сціхлі.

– Ну, што? – злавесна прагаварыў Клоп. – Чула ўсё? Чула, што яны з нашаю Затокаю зробяць?

Шчупачыха адкрыла зяпу, каб ізноў загаласіць.

– Чакай, – спыніў яе Клоп. – Не трэба галасіць. Ты пыталася, што рабіць? А я адказваю: Хахулю, калі яна вернецца, трэба будзе праглынуць. А потым паведаміць пра гэтую падзею Чарвяку, у ягоную “Падземную газету”. І тады ўсе пра нас спакваля забудуцца.

– Ну й галава! – пахваліла Шчупачыха Клапа. – Да такога дадумаўся. А хто будзе глытаць Хахулю?

– Дык ты ж і будзеш, – патлумачыў Клоп. – Вунь у цябе зяпа якая прасторная. Нібы ў кракадзіла. А ты як думала?

– А я ні пра што не думала, – прызналася Шчупачыха. – Я ніколі не думала, што трэба пра нешта думаць. А я праўда падобная да кракадзіла?

І тут яе апанаваў лірычны настрой. Надта ёй спадабалася, што Клоп параўнаў яе з кракадзілам. Ёй нават у люстэрка захацелася паглядзецца. Дзеля гэтага яна разагналася, набрала хуткасць, сіганула ўверх, узнялася над паверхняю вады, зірнула на сябе ў люстэрка Каляровай Затокі і ўрэзалася ў ваду.

Гэта было штосьці. Даўно ў Каляровай Затоцы ніхто так не гойсаў. Пачуў бы гэтае “Плясь!” Апантаны Рыбалоў, дык ашалеў бы.

Тут настала чарга дзівіцца Вадзяному Клапу. “Во дае старая!” – падумаў ён. Але пашчу не разяўляў, бо пашчы ў яго не было.

– А можа... я і праўда кракадзіліха?.. – летуценна прагаварыла Шчупачыха. – Вось так ляжыш сабе ў карчах, і так плакаць хочацца, па страчанай маладосці сумуючы... Тады і пачынаеш праліваць кракадзілавыя слёзы...

І яна зноў пачала румзаць:

– Шкада мяне. Шкада Хахулю. Добрая такая была, пухнатая, ветлівая. Мяккая. Шкада яе глытаць. А сябе яшчэ болей шкада.

– Ты не плач, – строга спыніў яе Клоп. – Ты зноў экалагічную катастрофу тут творыш. Вада салёная робіцца. Ты думай пра той гонар, які на тваю долю выпаў: Хахулю глытаць. Чарвяк пра цябе рэпартаж напіша. І партрэт твой у газеце змесціць...

– Ага, ага, – азвалася Шчупачыха. – Даўно мяне ўжо не фатаграфавалі для газеты...

– Ага, ага... – агакаў ужо і Клоп. – Адной Хахулі хадзіць у зорках?

За гэтымі салодкімі марамі яны не заўважалі, што іх размову ўважліва слухае нехта трэці. А цяпер заўважылі. Бо гэты трэці ад цікаўнасці забыўся на асцярожнасць і вытыркнуў свае рогі.

– Слімак! – грозна сказаў Клоп. Ён мог напалохаць, калі хацеў. – Ты чаго рогі выставіў? Ах ты, гідра зялёная! Слімак усё чуў, каб яго ракі паелі. Слухай ты, рагаты, ты маё джала бачыў? Хочаш ведаць, як Вадзяныя Скарпіёны кусаюцца? Зараз даведаешся.

– Вой, вой, вой, – толькі і паспеў піснуць Слімак і схаваўся ў сваім дамку.

– Будзеш маўчаць?! – пытаўся Клоп. – Скажаш хаця б слова – пакусаю!

– Маўчу, дзядзечка, маўчу... – пачулася з дамка.

– Будзе маўчаць, – задаволена прамовіў Клоп.

Гэта Клоп паспяшаўся са сваёй высновай, хоць і быў вучаны. Ніхто наогул не мог ведаць, пра што мог думаць у сваёй ракаўцы той маўчун. Дый часу не было пра тое

разважаць, бо ў Каляровую Затоку з плёскатам вярталіся вандроўнікі – Хахуля і Шчупачок.

***Гісторыя шаснаццатая.*** ПРА ТОЕ, ЯК ПАДВОДНАЯ СЯМ’Я ЎЗ’ЯДНАЛАСЯ, А ХТО БЫЎ ТАМУ РАДЫ АБО НЕ РАДЫ – ЖЫЦЦЁ ПАКАЖА. А ТАКСАМА ПРА ТОЕ, ЯК СТАРАЯ ШЧУПАЧЫХА СПРАБАВАЛА ЎЗГАДАЦЬ СВАЮ МАЛАДОСЦЬ. ТУТ ЯШЧЭ ШМАТ ЧАГО АДБЫЛОСЯ

– Яны ідуць! Яны вяртаюцца… – злавесна прасіпеў Вадзяны Клоп. Ён, пэўна, адчуваў, што настае ў ягоным жыцці зорная часіна, што час нешта рабіць, але што рабіць? Дык вось рабіў як умеў.

– Кожны сваю справу робіць, – аддаваў Вадзязяны Клоп апошнія распараджэнні. – Шчупачыха глытае Хахулю. Слімак маўчыць. А я кірую акцыяй. На гэтым усё.

Шчупачок і Хахуля перабаламуцілі ўсю Каляровую Затоку. Вясёлыя былі, хоць каровы ім свята крыху папсавалі. Але яны ведалі, што ёсць у свеце чыстая вада, і што чыстая вада – гэта добра.

– Гэта лепш за самае халоднае марозіва, – казаў Шчупачок.—Нават калі яно з гэтай трубы льецца. І горла мне болей ужо не баліць.

– Ах, Шчупачок, – прамовіла летуценная Хахуля, – як добра жыць там, дзе ёсць чыстая вада! Я сама жыла ў краіне з чыстаю вадою. І гэта нікому не шкодзіла. А ў вадзе жылі і рыбкі, і срэбныя павучкі, і чорныя жукі-плывунцы, і трубачнік, і слімакі з такімі самымі закручанымі ракаўкамі і рожкамі, як у нашага…

Жыхары Каляровае Затокі сціхлі, слухаючы, што яшчэ скажа Хахуля. А Слімак, пачуўшы пра сваіх калегаў і пра рожкі, забыўся на ўсялякую асцярожнасць, падабраўся бліжэй да Хахулі, наставіў рожкі і прашаптаў:

– Хахуля! Ты не забылася, што я твой адданы рыцар? Куды ты, туды і я. Толькі ж я не вінаваты, што не магу хутка перамяшчацца. Даспехі ў мяне ёсць, а вось каня няма. А паспрабуй хутка перамяшчацца з такой спарудай на спіне…

– Я ведаю, – азвалася Хахуля. – Не ўсім дадзена плаваць. А можа яно і да лепшага – калі не спяшацца нікуды…

– Я твой рыцар! Рыцар ордэна Хахулі! Не прагоніш мяне? А я цябе заўжды ратаваць буду! Прысвячай мяне ў свой ордэн, інакш кіну сваю ракаўку і ўтаплюся! – казаў у нейкім запале Слімак. – Можна?

Хахуля трошкі падумала і адказала:

– Нічога я не чула ні пра які ордэн. Але я ніколі цябе не ганяла і ганяць не буду. Калі нехта некага хоча ратаваць – на здароўе. Толькі мяне ратаваць як бы і не трэба. Сама ўратуюся. А наконт таго, што тапіцца трэба, дык гэта я зусім не разумею. Хіба можна ў вадзе ўтапіцца? Мы і так тут тапельцы ўсе… Але калі табе гэта прыемна будзе, дык я цябе прысвячу куды ты хочаш. Толькі кажы, што для гэтага рабіць трэба.

– Для гэтага нічога рабіць не трэба! – крычэў экзальтаваны Слімак. – Трэба толькі якойсьці сцяблінкаю мяне па плячах пастукаць і прамовіць: “Падымайся, сэр Слімак, рыцар ордэна Хахуляў!”

Хахуля добрая была. Яна на ўсё была згодная, нават на тое, у чым не разбіралася, абы дапамагчы жывой душы. Дык яна адкусіла сцяблінку аеру, злёгку хвастанула гэтай сцяблінкай па ўяўных плячах Слімака (бо і я даўмецца не магу, адкуль у Слімакоў пачынаюцца тыя плечы?) і ўрачыста прамовіла, так, як яе прасілі:

– Падымайся, Слімак, рыцар ордэна Слімакоў!..

А ад сябе яшчэ дадала:

– Слімак, Слімак, высунь рожкі
Дам табе я тры гарошкі.

Слімак, задаволены, узняў свае рожкі і сказаў:

– А цяпер твой адданы рыцар, Хахуля, павінен цябе пра нешта папярэдзіць…

І тут з карчоў пачуўся кашаль. Кашляў Вадзяны Клоп. І пры гэтым красамоўна паказваў сваё джала.

Слімак адразу змоўк.

– Пра што ты хацеў мяне папярэдзіць? – лагодна запыталася Хахуля.

– Я хацеў папярэдзіць цябе пра тое, каб ты берагла сваё срэбнае футра і апранала яго толькі па вялікіх святах. Бо ў нашай Затоцы яно перастане быць такім шыкоўным… – сумна адказваў Слімак.

– І гэта ўсё?

– І гэта ўсё. Далей я буду маўчаць. Бо я ператвараюся як бачыш у рыцара Маўклівага Вобразу…

І Слімак даволі спрытна схаваўся ў сваёй ракаўцы і напраўду змоўк. Надоўга.

Што ж, ён трымаў сваё слова…

Затым з карчоў павылазілі астатнія падводныя жыхары.

– Добры дзень, Хахуля, – сказаў Вадзяны Клоп.

– Добры дзень, дзядзька Вадзяны Клоп, – адказала Хахуля. – Па-мойму, мы ўжо сёння віталіся.

– Добры дзень, Хахуля, – прасквірчэла Шчупачыха.

– Добры дзень, бабуля Шчупачыха.

– Здарова будзь, Хахуля, – сказаў Вадзяны Клоп.

– Здарова будзь, Хахуля, – раптам падаў голас рыцар Маўклівага Вобразу са сваёй ракаўкі.

Хахуля паківала галавой. Потым сказала:

– Па-мойму, тут штосьці не тое. Чагой-та яны бесперапынку здароўкаюцца?

– А што, ты ўжо так распанела, што лішні раз і не паздароўкаешся з табою? – прашамкала Шчупачыха каля самае галавы Хахулявай. – Табе што, здаровай быць не хочацца? Задавацца пачала? Здарова будзь, Хахуля!

– Здарова будзь, бабуля Шчупачыха… – збянтэжана адказала Хахуля.

А Шчупачыха пачала ўжо прыкідвацца, што не чуе (хаця глушманкаю адроду не была).

– Га? Што? Чаго?! Падплывай бліжэй! Нічога не чую! Што ты там шалпочаш?

– Здарова будзь, пані Шчупачыха! – выгукнула Хахуля ледзьве не ў самае вуха да Шчупачыхі. (Хаця хто яе

ведае, дзе там у яе тыя вушы размешчаныя, у гэтай Шчупачыхі. Хахуля думала, што дзесьці блізка каля зяпы).

– От цяпер чую, – задаволена прамовіла Шчупачыха. – Дзякуй, Хахуля. Вось як уважыла дык уважыла. Добры дзень табе. Для каго добры, а для каго і не вельмі. Бо я цябе зараз глытаць буду.

Шчупачыха паспрабавала зрабіць гэта ўрачыста ды эфектна. Як на вайсковым парадзе. Або на балеце. Ды атрымалася больш чым нязграбна. Даверлівая Хахуля, прыслухоўваючыся да таго, што шалпоча Шчупачыха, сама таго не заўважыла, як апынулася ў ейнай пашчы. Але пашчу з Хахуляй Шчупачыха ніяк не магла закрыць. Па-першае, таму, што зубоў бракавала: Шчупачыха даўно не была на прыёме ў стаматолага. Па-другое, таму, што Хахуля сама ніяк не хацела глытацца. Дурная яна была ці што?

– Ды не казычыся ты, гарэза… Глытайся, кажу табе! Слухацца трэба старэйшых, так ці не? – здушаным голасам шамацела Шчупачыха. – Хі-хі… Хі-хі- хі!.. Хі-хі-хі-хі-хі-хі-хі-хі!..

Са старой Шчупачыхай зрабілася істэрыка.

А Хахуля, якая так і не згадзілася быць праглынутай, вінавата гаварыла:

– Прабачце, але мне чамусьці не хацелася, каб мяне з’елі…

– Дык я ж пажартавла, хі-хі-хі… – выкручвалася Шчупачыха. – Маю я права пажартаваць ці не?

– Так не жартуюць! – раптам пачуўся голас Шчупачка. – Але, напэўна, бабуля праўда не хацела нікога глытаць. Гэта на яе труба так падзейнічала. Мне самому ўжо млосна робіцца. Сківіцы зводзіць…

– Значыць, вам, маладыя людзі, трэба праменад зрабіць, – вырашыў за ўсіх Вадзяны Клоп. Ён, пабачыўшы правал аперацыі, зразумеў, што трэба нейк выкручвацца. – Ідзіце, паплавайце, а мы тут параімся, што далей з трубой гэтай рабіць.

Шчупачок і Хахуля выправіліся на прагулянку. Слімак, пакрыўджаны, што яго не запрасілі, сядзеў, маркотны і ціхі, у сваім дамку. Пра нешта думаў. Усё ж такі

ён разумны быў, філосаф, недарэмна столькі часу ў сваёй ракаўцы праседзеў, бы Дыяген – у сваёй бочцы. А Вадзяны Клоп і Шчупачыха пачалі наноў раіцца. А паколькі ад пачатку гэтай гісторыі шмат вадкасці з трубы ў Каляровую Затоку сплыло, дык мы зараз пачнем наступную гісторыю.

***Гісторыя семнаццатая.*** ПРА ТОЕ, ШТО ТВАРЫЛАСЯ ЎВЕРСЕ, АД ТАГО ЧАСУ, КАЛІ ХАХУЛЯ ПАКУСАЛА АПАНТАНАГА РЫБАКА, І ДА ТАГО ЧАСУ, КАЛІ ХАХУЛЯ І ШЧУПАЧОК НАВЕДАЛІ ГАЮЧУЮ КРЫНІЧКУ

А вады з таго часу шмат сплыло, ага. У параўнанні з падводным сухапутнае жыццё проста віравала.

Чарвяк хоць і не вылавіў Хахулю і не даставіў яе на бераг, як хваліўся, усё адно праславіўся серыяй сваіх рэпартажаў у “Падземнай газеце”. Ён зрабіў сабе, так бы мовіць, імя. “Чарвяк, спецыяльны карэспандэнт “Падземнай газеты”, – так ён цяпер падпісваў свае допісы.

Сараканожкі яшчэ больш сохлі па Чарвяку і нават шкадавалі ўжо, што нарадзіліся з нагамі. Вяртлявасць і паўзучасць уваходзілі ў моду. Чарвяк выйграў некалькі конкурсаў прыгажосці. Ягонымі канкурэнтамі былі Вужачка, Мядзянка і П’яўка, але ён іх усіх перамог. Куды было гэтым з ім спаборнічаць! Ніхто не ўмеў так выкручвацца, як гэта рабіў Чарвяк! Дарма ён столькі часу, на кручку седзячы, практыкаваўся?

Дык памалу Чарвяк і задавацца пачаў. Аднойчы на планёрцы ў рэдакцыі “Падземнай газеты” Крот, паблісківаючы залатым пенснэ, абвясціў, што збіраецца Чарвяка зноў у падводную камандзіроўку накіраваць.

На што Чарвяк, разваліўшыся ў пласторным фатэлі, высакамерна адказаў:

– Ізноў на кручку сядзець? Не царская гэта справа.

– Дык каго пасылаць? – разгубіўся рэдактар.

– Апарыша пасылайце, – з гонарам сказаў Чарвяк.

– А вы што рабіць будзеце?

– А я буду аддзелам кіраваць!

У Крата ад такога нахабства звалілася пенснэ.

– Такому… вертуну даверыць аддзел?

– Ах, гэтак? – зазлаваў Чарвяк. – Не давяраеце? Ну дык я сваю газету пачну выпускаць, у сябе на радзіме! І называцца будзе… “Кучка гною”!

І Чарвяк з гонарам выпаўз з рэдактарава кабінета. Слова сваё ён стрымаў і газету “Кучка гною” выпусціў. Але зараз не пра гэта гаворка.

А пра Хахулю.

Падземны свет пра яе бадай што забыўся. Але не людзі.

Апантаны Рыбалоў пасля няўдачы з Апантаным Алхімікам на нейкі час некуды знік. Можа, ізноў узяўся за рыбу, можа што іншае было ў яго наўме.

Затое з’явіліся іншыя людзі – з намётамі, сеткамі, фотакамерамі, тэлекамерамі ды іншымі таямнічымі прыладамі. Чаго яны хацелі – ніхто толкам не ведаў. Толькі слова “хахуля” не сыходзіла ў іх з вуснаў. У вёсцы нехта пусціў пагалоску, што хочуць з Хахулі футра зрабіць. Але хіба хопіць аднае Хахулі на футра?

Хаця і тое праўда, што калісьці футры з хахуляў рабіліся шыкоўныя. На першы выгляд сціплыя, чорна-бурыя, але як шыкоўна пераліваліся срэбрам, калі паненка ў футры паварочвалася перад святлом.

Можа, гэтая мода і падкасіла ў свой час род хахуляў. Мода прайшла, а род не аднавіўся. Эх, людзі, людзі!..

Вось і цяпер: ходзяць каля Затокі, распальваюць па начах вогнішчы, расстаўляюць сеткі і пасткі, пстрыкаюць фотаапаратамі, а якога ражна ім трэба ад маленькай, самотнай, закінутай Хахулі?

***Гісторыя васемнаццатая.*** ПРА ТОЕ, ШТО ДАЛЕЙ АДБЫЛОСЯ З МАЛЕНЬКАЙ, САМОТНАЙ, ЗАКІНУТАЙ ХАХУЛЯЙ, З ЯЕ СЯБРАМІ І ВОРАГАМІ. УВОГУЛЕ, ТУТ ШМАТ ЧАГО АДБЫВАЕЦЦА

Мы пакінулі нашых падводных жыхароў якраз у той момант, калі Хахуля і Шчупачок выправіліся на прагулянку

на край Затокі – можа, чысцейшай вады ім захацелася, а можа, месяцовага ззяння.

Месяц казытаў сваім промнем футра Хахулі, пакуль яна пялёскалася ў вадзе, змываючы з сябе каляровыя плямы. Здавалася, што яна плавае, фыркаючы і адсопваючыся, дае нырца, у вадкім срэбры.

– Якая ты прыгожая, Хахул! – прашаптаў Шчупачок.

Пакуль разыгрывалася гэтая рамантычная сцэна, у Каляровай Затоцы ішла аператыўная нарада. Удзельнікі яе былі тыя ж: Шчупачыха і Вадзяны Клоп. А маўклівым сведкам і слухачом гэтай гутаркі заставаўся Слімак.

Напачатку нарада нагадвала лаянку. Вадзяны Клоп сварыўся на Шчупачыху, а яна апраўдвалася.

– Што ж ты так схібіла, старая? – ушчуваў яе Клоп. – Сама такая вялізазная, а такое малое не змагла праглынуць?..

– Дык жа ж яна казыталася. Цярпець не магу, калі ў роце казычуць…

– Дык трэ было яе зубамі цісkануць як след, тады б яна не казыталася…

– Дзе ж мне тых зубоў набрацца? Апошні зуб выпаў сто гадоў таму назад. А новыя чамусьці не растуць…

(Вось урок усім, хто баіцца хадзіць да стаматолага. Своечасова лячыце зубы, інакш выпадуць, а новыя не павырастаюць, як у Шчупачыхі).

– Дык трэба было яе без зубоў праглынуць!

– Калі я каго апошні раз глытала? – працягвала жаліцца Шчупачыха. – Труба гэная даўно адвучыла нас ад натуральнай ежы. І што ты да мяне прычапіўся? Чаго ты хочаш ад хворай рыбіны, га? У мяне ж хваробаў столькі, колькі мне гадоў: ішыяс, раматус, склероз… астатнія не памятаю…

– Ну дык збірайся ў санаторый, – прамовіў бессардэчны Клоп. – На патэльню. Там табе такое праграванне зробяць, што ўсе твае хваробы адразу павыскокваюць.

– Не хачу ў санаторый! – заенчыла Шчупачыха. – Няўжо нельга нічога прыдумаць, Клопік?

– Усё ўпіраецца ў гэтую насатую і хвастатую. Ёй самае месца ў той сетцы, што людзі закінулі. Толькі ж яна сама туды не палезе, дурная хіба? Дык вось, старая, ёсць адзін спосаб… Слухай сюды, каб гэты ў ракаўцы не пачуў…

І ён пачаў Шчупачысе штосьці шаптаць так ціха, што ні Слімак, ні мы з вамі нічога не зможам пачуць.

Шчупачыха слухала, ківала галавой, казала “ага, ага”, а даслухаўшы да канца, абвясціла, што Клоп – сапраўдны прафесар і ўвогуле з геніяў геній.

– Вось так і рабі, старая, – задаволена сказаў Клоп і змоўк, бо вярнуліся з прагулянкі Хахуля і Шчупачок.

– Ну, як там яно, жыццё без трубы? – саладжавым тонам запытаўся Клоп. – Горла не баліць, га, Шчупачок?

– Горла не баліць, – мляўкім голасам адказаў Шчупачок. – Толькі вось у галаве кружыцца…

– Гэта ад чыстае вады, – уздыхнуў Клоп. – Казалі ж табе… Нам шкодная чыстая вада.

– Я цяпер ужо сам не ведаю, што нам шкодна, а што карысна… – казаў Шчупачок.

– Гэта ён спаць хоча, – перапыніла Шчупачыха. – Сорамна, прыгажуня, па начах з маладым чалавекам бадзяцца. Бачыш, ён у нас яшчэ маленькі. Вочкі зліпаюцца…

Шчупачку праўда дужа хацелася спаць.

– Паглядзі па трубе калыханку – і ў люлю, – распарадзіўся Клоп.

– Нешта мне апошнім часам не падабаюцца калыханкі… – прагаварыў Шчупачок. – Страшныя яны, як і твае казкі.

– Ну, тады кладзіся спаць без калыханкі…

Шчупачыха павяла Шчупачка ўкладваць спаць. Слімак зашыўся ў сваю ракаўку і таксама драмаў. А Клоп, скарыстаўшы момант, завёў гутарку з Хахуляй. І распачаў яе здалёк – з філасофіі:

– Слухай, Хахуля, я табе шчыра буду казаць, ды істую праўду. Мы, клапы, не хлусім. Ёсць жыццё, а ёсць ты. Усе жывуць, як жыццё імі кіруе, а ты не так. Ты нейкая не такая, як усе. Шкадуеш усіх, нават тых, хто няварты

валаска на тваім хвасце. Ну, што табе Слімак? Рыцар знайшоўся! Слімак – ён і ёсць Слімак. Такіх, як ты, бадай, у свеце ўжо не засталося. Вымерлі яны. А хто не вымер, таго ў “Чырвоную кнігу” запісалі. Вось такая філасофія жыцця. Але гэта толькі палова пытання. Дрэнная. Бо ёсць і добрая. Я дакладна ведаю адну навіну. Для такіх, як ты, хто не хоча жыць па законах жыцця, зрабілі спецыяльную рэзервацыю. Гэта, значыцца, запаведнік. Там вас усіх пазбіралі, гэтакіх мякенькіх, пухнаценькіх, лагодненькіх, бездапаможненькіх. Жывіце сабе на здароўе ды іншым жыць не замінайце. Жывуць там і бабры, і буслы чорныя, і хахулі. Вада там празрыстая, пясок жоўты – усё, як ты прасіла. А каб на вас ніхто не напаў, тое месца металічнай сеткай з усіх бакоў абгарадзілі. Вось, усё як ёсць распавёў, аніводным словам не схлусіў.

– А як туды трапіць? – запыталася летуценная Хахуля.

– Туды проста так не трапіць, – тлумачыў дасведчаны Клоп. – Там транспарт адпаведны. Пасажырапаток, чула такое слова? Туды жывёлаў у спецыяльных сетачках прывозяць. Вунь, на павароце, адну такую сетачку пакінулі. Гэта, значыцца, вакзал. Кожны, каму паложана – лезь у сетачку і едзь сабе ў запаведнік. Толькі не кожнага павязуць, бо трэба, каб звер быў рэдкі, у “Чырвонай кнізе” прапісаны. І білета не трэба купляць. Вунь, бачыш тую сетачку?

Хахуля прыгледзелася:

– Бачу. Але там дзядзька нейкі ходзіць у вялікіх ботах, да пастуха падобны.

– Дык гэта… дырэктар запаведніка, – патлумачыў Клоп. – Эх, як жа нам хацелася б патрапіць у запаведнік – і Шчупачысе, і Шчупачку, і нават гэнаму рыцару твайму бруханогаму! Ды хто нас туды пусціць? Паспрабуй дакажы, што мы выміраем? Мы ж вунь усе якія здаровенькія, каляровенькія… Нам нельга, мы ў “Чырвонай кнізе” не прапісаныя. Слухай, Хахуля, калі патрапіш у запаведнік, закінь і пра нас слоўка. Маўляў, ёсць такія і такія дахадзягі ў Каляровай Затоцы. Можа, і нас куды-небудзь запішуць.

– Я абавязкова скажу, – паабяцала жаласлівая Хахуля. – Мне вас усіх шкада. Асабліва Шчупачка. Ён так кашляе… Яго ратаваць трэба.

– Усе мы тут кашляем, кхе-кхе, кхе, – азваўся Клоп. – Ратуй нас хутчэй, Хахуля, а то пазнікаем дарэшты. Лезь хутчэй у сетку.

– А як жа бабуля і Шчупачок? Я з імі і не развіталася як след…

– Яны ўжо спяць. Мы ім ад цябе прывітанне перадамо. Галоўнае, каб ты нас перапраравіла ў запаведнік. Спяшайся, Хахуля! Дырэктар доўга чакаць не будзе, – падганяў Хахулю Вадзяны Клоп.

– Да сустрэчы, дзядзька Клоп, – сказала Хахуля і знікла за паваротам.

– Да сустрэчы, Хахуля. Прывітанне дырэктару запаведніка! – выгукнуў Клоп.

Што ў гэты час рабіў Слімак? Магчыма, ён думаў: “Гэтым хоць прывітанне перадала. А на мяне, як заўсёды, забыліся…” А, можа, і такія ў яго былі думкі: “Які ж ён падманшчык, гэты Вадзяны Клоп! Бедная Хахуля! Што ж рабіць? Як ёй дапамагчы?” А, можа, наўме ў яго было наступнае: “Адзін аднаго падкусваюць, здаюць… Жорсткае яно, падводнае жыццё… А я што магу? Я такі мяккі, а вакол усе такія зубастыя… Мая справа – у ракаўцы сядзець, каб не з’елі”.

Цяжка меркаваць, пра што думае Слімак, калі ён ад усяго свету адгарадзіўся сваёй ракаўкай.

Затое мы маглі бачыць, што адбылося праз дзесяць хвілінаў пасля таго, як Вадзяны Клоп, задаволены ўдала прарабленай аперацыяй, паплыў адпачываць. Ложак ягоны размяшчаўся пад лістом гарлачыка – расліны, якая нейкім цудам расла і нават квітнела ў Каляровай Затоцы. Толькі гарлачык гэты быў не жоўты і не белы, а вясёлкавы.

Слімак вытыркнуў рожкі з ракаўкі і прашапацеў (ціхутка, каб нікога не пабудзіць):

– Пачакай, Хахуля… Яны цябе зноў падманваюць… Яны на цябе пастку падрыхтавалі… Не чуе… Позна. Зноў спазніўся.

Так ён, адважны рыцар, стараўся дапамагчы Хахулі.

***Гісторыя дзевятнаццатая.*** ПРА ТОЕ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ХАХУЛЯЙ. ГІСТОРЫЯ ВЕЛЬМІ КАРОТКАЯ І ДРАМАТЫЧНАЯ

Не чула, Хахуля, вох, не чула, як яе папярэджваў Слімак, рыцар ордэна Хахулі. Яна была натураю бесклапотнаю, летуценнаю.

Поўня над рэчкаю перастала быць сіня-зялёнаю, а сталася, як таму належыць, серабрыстаю, і Хахулі здавалася, што яе лапкі перабіраюць вадкае срэбра. Серабрыстая Хахуля плыла па срэбнай рэчцы. Правы бераг у месяцовых промнях быў такі высокі і таямнічы, так хацелася хутчэй зрабіць у ім норку... Хахуля імкліва плыла, падобная да сярэбранае субмарыны, да гэтага берага. Вось зараз і высадка. Зараз яе сутрэне і пацісне ёй лапку важны дырэктар запаведніка з чорнай тэчкаю пад пахай.

І раптам бераг зрабіўся клятчасты. І Хахуля затрапяталася ў сетцы. “Не падмануў дзядзька Клоп”, – мільганула ў яе даверлівай галаве.

А другая яе думка была: “А дзе ж дырэктар?”

Дык вось такая штука, што “дырэктараў” аказалася шмат, чалавек, можа, пяць або шэсць. І гэткія падобныя адзін да аднаго, акулярыстыя. А ў руках блакноты, ручкі ды нейкія незнаёмыя прычындалы. “Сакратары, ці што?”, – зноў падумала Хахуля. Ёй прымроілася небяспека. Бо за натоўпам акулярыстых людзей стаяў той, хто нагнаў на яе нямала страху і клопату, – ён, Апантаны Рыбалоў. Адзін палец у яго быў яшчэ перабінтаваны.

“Шкада, што далёка, трэ было б яго яшчэ куснуць”, – падумалася Хахулі. Бачыце, якая яна сталася разумная, калі ў пастку трапіла.

А акулярыстыя, выцягнуўшы Хахулю з вады, трымалі яе моцна, умела, так, каб яна нікога не пакусала, таропіліся ў яе акулярамі, лупамі і нават мікраскопамі і гаманілі, гаманілі, гаманілі...

– Вунь ты якая... Ну, давай знаёміцца.

– Яна цябе пакусаць хоча. Не, красуня, не на тых натрапіла. Мы ўжо пакусаныя.

– А ў нас для цябе неспадзяванка, красуня.

– Бач ты, якая злосная! Трымай мацней, а то вырвецца…

Хахуля сапраўды пачала біцца ў сетцы ды вырывацца…

Гэты плёскат, гэтая валтузня, гэтая гамэрня дасягнулі вушэй жыхароў Каляровае Затокі. Прачнуўся Шчупачок і зарумзаў:

– Хто гэта крычаў? Зноў на Хахулю палююць?

– Гэта сон, усяго толькі страшны сон, – супакойвала яго старая Шчупачыха.

– Хахулю злавілі! – выкрыкваў Шчупаок. – Пусцеце мяне! Няхай мяне таксама ловяць!

– Беднае дзіцятка! Зноў яму Хахулі мрояцца… У яго зноў тэмпература! Ён гарыць! – лемантавала Шчупачыха.

– Як жа ён можа гарэць, калі ён рыба, ды яшчэ ў вадзе, – мармытаў спрасоння Клоп. Ён быў надта незадаволены, што яму не далі спаць.

– Снатворнага яму трэба даць, – падказаў ён.

Адкуль жа здабыць тое снатворнае? Аптэкі няма. Затое ёсць труба. Вось з яе і напаілі Шчупачка соннай вадзічкай, і ён неўзабаве заснуў, і снілася яму Хахуля – прыўкрасная, у серабрыстай футрачцы. Яна стаяла на палубе шыкоўнага карабля, над ёю кружлялі галасістыя ружовыя чайкі, а бабёр, капітан карабля, гжэчна дапамагаў ёй прайсці ў каюту.

Наяве Хахулю, закручаную ў нерат, пацягнулі кудысьці. І на беразе, дзе толькі-толькі была вялікая мітрэнга, зрабілася вусцішна, ціха.

І ў Каляровай Затоцы запанавала амаль цішыня, якую парушала булькаценне з трубы Апантанага, як мы ведаем, Алхіміка.

***Гісторыя дваццатая.*** ПРА ТОЕ, ЯК ПРАЧНУЛІСЯ ЖЫХАРЫ КАЛЯРОВАЕ ЗАТОКІ, ШТО ЯНЫ ПАБАЧЫЛІ, ШТО ПАЎТАРЫЛАСЯ І ШТО СТАЛАСЯ НЕЧАКАНЫМ

Як вы лічыце, ці храпуць вадзяныя жыхары, калі спяць? І што пры гэтым чутно ў вадзе? Пэўна, нейкія гукі ўсё ж такі былі… Яны мяшаліся з адвечным булькаценнем трубы. І гэтае храпенне-булькаценне раптам парушыў звонкі голас:

– Што за праява такая? Сонейка прачнулася, а гэтыя яшчэ дрыхнуць як пшаніцу прадаўшы?! Ану, прачынайцеся! Я вярнулася!

Але жыхары Каляровае Затокі працягвалі пускаць бурбалкі і мармытаць у сне. Надта іх разабрала соннае зелле, што струменіла з трубы. Тады тая, што крычала, прычапілася да Слімака:

– Паўстань, бруханогі рыцар ордэна Хахуляў! Твая хвастатая панна, можа, у небяспецы, а ты мігдалы нябёсныя мроіш! А ну, даставай сваю зброю, свае страшныя рогі, а не то звольню з рыцараў, клянуся хвастом!

Але ракаўка заставалася замкнёнай на ўсе засаўкі.

І тады незнаёмая (якая там незнаёмая!) ужыла стары спосаб. Яна далікатна пастукала ў ракаўку сваёй лапкай і праказала стары, як свет, заклён:

– Слімак, Слімак, высунь рожкі,
Дам табе я тры гарошкі…

Нарэшце-такі зарыпелі ў дамка дзверы, асцярожна вытыркнуліся рожкі, і Слімак напаўсонным голасам запытаўся:

– Хто гэта?

І раптам ачомаўся:

– Хахуля, дык гэта ж ты? А можа… гэта не ты? На цябе ж пасткі ладзілі. А я крычаў табе: не плавай туды! А потым кінуўся цябе ратаваць…

– Бач, ратавальнік, – пачуўся сіпаты голас Вадзянога Клапа. – Не кінуўся, а папоўз, як мокрае гарыць. Карысці ад твайго поўзання. Калі кідаешся на дапамогу, трэба не паўзці, а плысці… Ды што яму казаць! Народжаны поўзаць, плаваць не можа.

(Бач, якімі афарызмамі гаворыць Клоп! Сам прыдумаў? Або вычытаў дзе-небудзь?).

– Няпраўда! – запратэставаў Слімак. – Я шпарка бегаю. Проста я стаміўся і прысеў адпачыць. А цяпер вось прачнуўся і зноў пабягу. Хаця… навошта цяпер бегчы, калі Хахуля вярнулася? Гэй, слухайце ўсе! Хахуля вярнулася!

З-пад карчоў на гэты галас вызірнулі Шчупачыха і Шчупачок.

Ці ўмеюць рыбы абдымацца? Пэўна, не, нават калі ім хочацца. Таму Шчупачок толькі кружляў вакол сваёй хвастатай сяброўкі, злёгку кратаў яе плаўнікамі і галёкаў:

– Вярнулася! Вярнулася! А я прысніў, што ты ў сетку трапіла.

Вадзяны Клоп і Шчупачыха радаваліся не так бурна.

(Можна сказаць, што і зусім не радаваліся).

– Вярнулася… – бурчэў сабе пад нос Клоп. – Шчасце такое.

– З вяртаннем, мілачка, – кісла ўсміхалася Шчупачыха. – Як табе ўдалося з тых нератоў вырабіцца? Зноў каго-небудзь пакусала? Дзіва што. Маладая, зубы цэлыя.

– Я нікога не кусала, – адказвала Хахуля. – Хопіць аднаго разу. А вы, дзядзечка Клоп, памыліліся. Ніякага дырэктара я там не сустрэла. А злавілі мяне заолагі. Заолагі – гэта людзі ў акулярах, якія праз шкельцы нас, жывых, разглядаюць.

– І чаго яны ад цябе хацелі? – падазрона запытаўся Клоп.

(Ён, бачыце, інакш, як падазрона, гаварыць не ўмеў).

– А яны нічога ад мяне не хацелі. Яны толькі мяне праз свае акуляры разглядалі, нешта ў свае блакноты запісвалі, а пасля мяне назад у рэчку выпусцілі. А на памяць пакінулі вось гэта…

На лапцы ў Хахулі зіхцеў сярэбраны пярсцёнак.

– Акальцавалі, значыцца, – закрахтаў Клоп. – Цераз гэты пярсцёнак яны за табой сачыць будуць. Нікуды ад іх не падзенешся.

– А нашто мне ад іх дзявацца? Цяпер я ведаю: людзі – добрыя.

– Багата ты іх ведаеш, – буркнуў Клоп.

Гэты дзень у Каляровай Затоцы прайшоў у дыскусіях адносна людзей. Большасць схілялася да думкі, што нічога добрага ад іх чакаць няварта. Слімак час ад часу вытыркаў з ракаўкі рогі, як быццам збіраўся выказаць сваё меркаванне, але... маўчаў. Можа, ён проста ўпотай любаваўся пякнотай свае панны.

Спрэчкі перапыняліся сняданкам, абедам, вячэраю. Клікалі і Хахулю да трубы, але яна адмаўлялася есці. І як гэта яна трывала столькі часу амаль без ежы?

Знерваваныя, узбуджаныя, жыхары Каляровае Затокі пажадалі адно аднаму добрай ночы і рана палягалі спаць. Не спалі толькі Вадзяны Клоп і Хахуля. Яны працягвалі спрэчку – цяпер ужо пра ўсё існае ў свеце.

– Усе ў свеце створаны, каб адзін аднаго есці, – даводзіў Клоп. – Усе драпежнікі. А чалавек найгоршы ад усіх, бо ён усіх есць.

– А вы ўсё пра ежу ды пра ежу, дзядзька Клоп... Ці няма больш высокіх тэмаў?

– Можна падумаць, што ты, паня такая, ніколі нікога за сваё жыццё не з’ела? Скажы па шчырасці, якая твая ўлюбёная страва?

– Ну... – засаромелася Хахуля. – Можа, п’яўкі?

– Вось бачыш: п’яўкі. Ты іх чмякаеш. А ім, можа, таксама жыць хочацца...

– Трэба ж нешта кушаць... – апусціла вочкі Хахуля.

– Паглядзі на нас. Мы нікога не ямо. У нас тут сінтэтычная збалансаваная ежа, якую дае нам труба.

– Ад гэтай трубы адны хваробы, – уздыхнула Хахуля. – Вунь Шчупачок як кашляе... Я паспрабую ўсё ж вас неяк уратаваць, дзядзечка Клоп.

– Сябе ўратуй, – буркнуў Клоп.

Некалькі хвілінаў яны сядзелі моўчкі. Хахуля прыслухоўвалася да самой сябе. Вочкі яе бліснулі.

– Дзядзечка Клоп, – сказала яна, – мне трэба адысці. Нешта мяне кліча.

– Ідзі, – буркнуў Клоп. – Ведаю, што цябе кліча.

– Але я неўзабаве вярнуся… – паабяцала Хахуля. – Перадай ім.

– Куды ты падзенешся… Куды ад цябе падзецца…

На тым і развіталіся.

Вадзяны Клоп доўга ў гэтую ноч заснуць не мог. Усё мармытаў: "Знікае… Зноў вяртаецца… Зноў знікае… А якая ад таго каму карысць?" А потым мроілася яму Хахуля, якая адплывала кудысьці, перабіраючы лапкамі вадкае месяцовае срэбра.

***Гісторыя дваццаць першая.*** ПРА ТОЕ, ЯК НАРОДЖАНЫ ПОЎЗАЦЬ НАВУЧЫЎСЯ ПЛАВАЦЬ, ПРА РАМАНТЫЧНУЮ СУСТРЭЧУ АДНАГО ЗАКАХАНАГА РЫЦАРА З ПАНЕНКАЙ, А ТАКСАМА ПРА З'ЯЎЛЕННЕ НАШАГА СТАРОГА ЗНАЁМАГА

Слімак, вядома, усё чуў, пра што размаўлялі Хахуля і Вадзяны Клоп. Ён надта засмуціўся, калі пабачыў, што Хахуля зноў адплывае, таямнічая і няўлоўная, бы "Лятучы галандзец". І няма ніякай магчымасці яе затрымаць. І дарма крычаць з ракаўкі: "Там небяспечна!" А што яшчэ можна зрабіць?

"Поўзаць за ёю і праўда марна, – раздумваў Слімак. – Як жа быць? Я ўсё ж такі рыцар і павінен яе абараняць!"

І тут у ягонай памяці ўзнік далёкі мілы ўспамін. Пра тое, як ён быў маленькі і чаму вучыла яго мама. Дакладней мама-тата. Бо кожнаму біёлагу вядома, што кожны слімак адначасова і мама і тата.

Дык вось, ад мамы-таты маленькі Слімачок навучыўся плаваць, а пасля, як трапіў у Каляровую Затоку, забыўся на гэтае ўменне. Пагатоў, закон Каляровай Затокі забараняў каму-небудзь куды-небудзь сплываць.

А рыцары нічога не баяцца і ім няможна нешта забараніць.

Такім чынам, Слімачок узгадаў адно з рыцарскіх майстэрстваў – плаванне.

Ён ускараскаўся на паверхню вады па зялёнай націнцы, прыляпіўся да вадзяной плеўкі дагары нагамі і… паплыў. Туды, куды марудна несла яго рачная плынь.

Вось і скончылася Каляровая Затока. Слімак з цікаўнасцю азіраў асаку, аер, гарлачыкі, пясчаныя берагі, выспы, карагі, што тырчэлі з вады, – усё было новае.

Рака раптоўна павярнула і мякка паклала Слімака на пясчаную водмель. Туды, куды яму і трэба было. Бо тут ён пабачыў месяцовую паненку, што купалася ў месяцовай рацэ, фыркаючы і атрасаючы з сябе месяцовыя пырскі.

Слімак ведаў, штоназіраць за паненкамі, калі яны купаюцца, не вельмі прыстойна, але не мог адарвацца. Бо то ж была Хахуля, але як бы і не тая.

Таму што Хахуля не проста купалася. Яна палявала.

Яна вынюхвала ў вадзе сваім чуйным носікам цёмнае, жывое, і з гэтым смачненькім распраўлялася на беразе.

“Хрумсь-хрумсь! Чмяк-чмяк!..” – толькі і чулася ў цішыні.

Хахуля, ясная справа, згаладалася, пакуль сядзела ў Каляровай Затоцы. І людзі, у якіх яна гасцявала, забыліся яе пакарміць. На ясных паненак ахвочыя любавацца ўсе, а вось пра тое, што і ім трэба нешта кушаць, забываюцца. Дык вось яна сама і здабывала сабе наедак.

Каля краю вады ладнай горкаю ляжалі аскепкі ракавак – сляды таго палявання.

Слімак, пабачыўшы тое, імгненна схаваўся ў сваім дамку. Доўга сядзеў, пакуль не сціхла гэтае пагрозлівае “хрумсь-хрумсь, чмяк-чмяк”.

А потым у ягоны дамок далікатна пастукалі, і пяшчотны голас праспяваў:

– Слімак, Слімак, высунь рожкі,
Дам табе я тры гарошкі.

Гэтаму заклёну Слімак не мог супраціўляцца. Ён даверліва вытыркнуў з дамка свае рожкі.

– Мілы рыцар, няветліва сачыць за паненкамі ў той час, калі яны палююць, – з дакорам прагаварыла Хахуля.

– Хахуля, ты не будзеш мяне есці? – спытаў Слімак.

– Не, мілы рыцар! Не было яшчэ на свеце паненкі, якая з’ела б свайго абаронцу.

Пачуліся крокі. Чыесьці ногі храбусцелі па прыбярэжнай жарстве.

– Хахуля! Гэта чалавек. Цяпер цябе самую могуць з’есці, – устрывожыўся Слімак.

– Не з’ядуць. Бо гэта ідзе мой знаёмы, Апантаны Рыбалоў. Але ты ўсё ж такі схавай свае рожкі.

“Разумна, – падумаў Слімак. – Хахуляў гэты Рыбалоў, можа, і не есць, а наконт слімакоў – гарантыі няма”.

І ён паслухмяна зачыніўся ў сваёй ракаўцы.

– Смачна з’есці, Хахуля. Я бачу, у вас вячэра, – Апантаны Рыбалоў размаўляў з ёю так, як быццам яны мільён гадоў ужо былі знаёмыя, столькі часу, колькі існуюць людзі і хахулі.

– Дзякуй, – падтрымала свецкую гутарку Хахуля. Яна зусім не баялася Апантанага Рыбалова. – Вячэраю. Трэба ж нешта кушаць. Як ваша лапка, што я пакусала?

– Ужо не баліць, – сказаў Апантаны Рыбалоў, – а раней трохі балела.Усё да лепшага. Хто толькі мяне не кусаў – піраны, акулы, а яшчэ электрычны вугор стукнуў токам… Ды толькі пасля нашага знаёмства, шаноўная Хахуля, я штось зразумеў. Я зразумеў, што я ўжо не рыбалоў. І што я не апантаны.

– Выбачайце, калі што не так, – сарамяжліва казала Хахуля. – Я не хацела…

– Дык усё да лепшага! Адным апантаным стала меней… Па-мойму, усе нашыя беды ад таго, што ў свеце шмат апантаных людзей. Яны хочуць як лепш, а атрымліваецца як заўсёды. Таму на нашай зямлі знікаюць кондары і хахулі. А месца ўсім, як быццам, хапае… Ведаеш што, Хахуля? Тут ёсць адзін Апантаны Алхімік… Колькі я з ім не гаманіў, ён застаўся такі ж заціяты, як і быў. Хоча, каб уся планета ператварылася ў ягоную лабараторыю, а так жа няможна.

– Вядома, няможна. З трубы ліецца нешта брыдкае, а Шчупачку горла баліць.

– Дык ён мяне не слухаецца. Можа, ён бы цябе паслухаў, такую элегантную, гжэчную?

– Сумняваюся, – пахітала галавой Хахуля. – Не такая ўжо я красуня. Нос мой, бачыце, нос…

– У вас ідэальная форма носа! Можна сказаць, рымская, – горача запярэчыў ужо не апантаны Рыбалоў. – Прашу вас скласці мне кампанію. Мы пойдзем да Апантанага Алхіміка і, толькі паглядзеўшы на вас, ён перастане быць апантаным.

– Пайду, – проста адказала Хахуля. – Надта хочацца, каб Шчупачок паздаравеў.

– Чакайце! А я? Я таксама з вамі хачу, – Слімак даўно ўжо вылез са сваёй ракаўкі і варушыў рожкамі. – Хахуля! Ты не падумай! Я шмат чаму навучыўся з таго часу, як тваім рыцарам стаў. Я нават і плаваць умею. І вершы складаю. І рамансы пяю. Вось, паслухай!

І Слімак зспяваў:

– Хахуля, мілая Хахуля,
Ты прыйшла да нас адкуля?..

– Верны мой рыцар, – уздыхнула Хахуля. – Куды ж табе з намі? Гэта ж суша. Паўзці доўга, плаваць няможна. А лятаць ты не ўмееш, дый гэта не ёсць рыцарскае майстэрства.

– Я навучуся! – паабяцаў Слімак.

– Напэўна, гэта зойме багата часу… А ў нас яго няма… Нам Каляровую Затоку ратаваць трэба. Слімачок! Ты выканаеш маю просьбу?

– Усё, што скажаш, – адказваў рыцар ордэна Хахулі.

– Дык вяртайся ў Каляровую Затоку і скажы, што я іх усіх люблю. І што ўсё будзе добра. Зробіш?

– Зраблю, – паабяцаў Слімак.

***Гісторыя дваццаць другая.*** ПРА ТОЕ, ЯК КАЛЯРОВАЯ ЗАТОКА ПЕРАСТАЛА БЫЦЬ КАЛЯРОВАЙ ЗАТОКАЙ

Калі ў Каляровую Затоку прабралася сіня-зялёнае сонца і выявілася, што Хахулі зноў няма, Шчупачок паспрабаваў быў па сваёй звычцы зарумзаць, але яго сурова перапыніў Вадзяны Клоп:

– Хахулі знікаюць, каб вяртацца, і вяртаюцца, каб знікаць. Гэта фатум.

Словы Клапа былі мала зразумелі, але крыху супакоілі. Шчупачок вырашыў чакаць.

Час – добры лекар. Труба струменіла каляровую вадкасць, карміла і паіла падводных жыхароў, спявала ім калыханкі, і здавалася, што іншага жыцця быць не можа. Жылі раней нейк без Хахуляў, і цяпер пражыць можна. Нават Шчупачок пачаў супакойвацца і ўсё радзей згадваў сваю хвастатую сяброўку.

А Клоп – той больш учэпістую памяць меў. Той час ад часу бурчэў сам сабе:

– Знікла – хай сабе. Але нашто гэтага бруханогага, Слімака з сабою звяла? Ото ж вяртлявая паненка! А з бруханогім усё неяк весялей было.

Ды праз колькі часу вярнуўся і бруханогі. Ён, хоць і быў рыцар, але плаваць супраць плыні не навучыўся. А поўзанне патрабуе часу.

Увечары, замест калыханкі падводная спадарства слухала аповед Слімака. Пра тое, як сустрэў ён месяцовую Хахулю на месяцовым пляжы. І як з’явіўся Апантаны Рыбалоў. І што яны рабіць надумаліся. І якое даручэнне пакінула Хахуля свайму адданаму рыцару.

Пра адно толькі Слімак змоўчаў – пра Хахуліну вячэру. Што ж! Не зусім ветліва распавядаць пра чужыя таямніцы.

– Не веру я людзям, – прамовіў, выслухаўшы Слімака, Вадзяны Клоп. – Яны ўсе апантаныя. Не веру, каб хтосьці з іх перастаў быць апантаным.

– Бабуля! – раптам выгукнуў Шчупачок. – Я нічога не чую! Я не аглух?

Не, ён не аглух. Гэта проста перастала булькацець, збягаючы ў Каляровую Затоку, вадкасць з трубы.

Труба высахла – а калі гэта сталася, ніхто і не заўважыў.

ПАСЛЯСЛОЎЕ

Былая Каляровая Затока напоўнілася жыццём. Па яе паверхні, на якой і сляда не засталося ад ільсняных каляровых плямаў, шныраць цікаўныя вадамеркі і ўглядаліся ў глыб вады: што там? Давайце і мы з вамі паўзіраемся.

Вада ў рацэ як быццам бы празрыстая, але піць яе негатаванаю ўсё ж не раю. У вадзе таўчэцца мноства дробнай жыўнасці – цыклопы, дафніі, калаўроткі і ўсялякае іншае. Быццам жывы пылок. Нашто вам яго глытаць, вы ж не кіты. У былую Каляровую Затоку вярнуліся бакаплавы, аўсянікі, трубачнік. (Пачытайце пра іх у кніжках па заалогіі). Апантанаму Рыбалову, калі б ён вярнуўся да свайго ранейшага хобі, было б тут чым заняцца, бо ў затоцы завялася паважная рыба – уюны, ментузы, галаўні, верхаводкі, печкуры і акуні. Нават ракі тут з задавальненнем зімуюць у норах. Дзіва што!

А што нашыя старыя знаёмыя? Ці прызвычаіліся яны да чысцюткай вады? Спачатку ім няпроста было, што праўда, тое праўда. Але не забывайцеся, што яны былі жывучыя, да ўсяго звыклыя. А да добрага прывыкаць усё-такі лягчэй, чым да благога. Вадзяны Клоп і Шчупачыха ўпотай смуткуюць па высахлай трубе, што давала ім харч, пітво і відовішчы, і схаваўшыся ў карчах, часам уздыхаюць па былых часах.

Вадзяны Клоп не згубіў звычкі філасофстваваць і расказваць казкі, якія ў яго перасталі быць страшныя.

– Двойчы ў адну Каляровую Затоку не ўводзеш. Трубы з’яўлюцца і знікаюць, а мы застаемся, – часта паўтарае ён.

Шчупачок увабраўся ў сілу, паздаравеў так, што і не пазнаеш, адно смуткуе па Хахулі, а разам з ім – сэр Слімак, рыцар ордэна Хахулі. Яны вераць, што аднойчы Хахуля

вернецца ў іх затоку, вясёлая, бадзёрая, насатая, хвастатая, і зноў прамовіць:

– Слімак, Слімак, высунь рожкі,
Дам табе я тры гарошкі.

Чарвяк, які зрабіўся рэдактарам “Падземнай газеты”, змясціў у ёй падрабязны рэпартаж пра тое, як Апантаны Алхімік зачыніў сваю лабараторыю, сказаўшы: “Хацеў ашчаслівіць чалавецтва, ды нешта не атрымліваецца ў мяне. Дык нашто дарма прыроду псаваць?”. Гэта ён слушна сказаў. Лабараторыі, заводы, аўтамабілі – без іх як бы і не абыдзешся, але ж і пра хахуляў дбаць трэба. А пра што з ім гаварылі Апантаны Рыбалоў і Хахуля – гэта вялікая таямніца, нават Чарвяк пра яе не ведае.

Дзе ж яны цяпер, былы Апантаны Рыбалоў і былы Апантаны Алхімік? Пэўна, без справы не сядзяць, бо багата яшчэ ў свеце атручаных затокаў, рэчак ды азёраў.

Дзе ты цяпер, Хахуля? Чуткамі зямля поўніцца. Казалі, што чулі яе голас каля ракі Асцёр і бачылі сціплыя сляды яе снедання (хахулям таксама кушаць трэба). Веру, што знайшла яна нарэшце высокі пясчаны бераг, зрабіла ў ёй норку і жыве, шчаслівая.

Ты, мой дружа чытач, што б ні рабіў на гэтай Зямлі, памятай, што ёсць у свеце такая істота, далікатная, грацыёзная, гатовая кожнаму дапамагчы, а сама такая безабаронная – Хахуля. Хто ж ёй дапаможа, як не ты?

ЗМЕСТ